

*Людзьмі звацца! —*
*Янка Купала*

# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 16 лістапада 1990 г. № 46 (3560) ● Цана 10 кап.


## УНУМАРЫ:





МЫ ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ, ЕДЗЕМ...

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# З агню ды ў полымя?

**Чаго толькі не здараецца ў наш перабудовачны час! Калектыў Ваўкавыскага завода дахавых і будаўніча-аддзелачных машын выказаў жаданне далучыцца да Расійскай Федэрацыі (зварот надрукаваны 8 лістапада ў газеце прафсаюзаў «Праца»). Што, не зразумелі! Далекавата Ваўкавыск ад рэспублікі-суседкі! Тлумачу: завод не за сябе хвалюецца, не за сваё існаванне ва ўмовах рынку, а за эканамічную стабільнасць і будучыню ўсяго беларускага народа.**

Звычайна пад важнымі калектыўнымі акцыямі — зваротамі, лістамі і інш.—і падпісваюцца калектыўна; дзесяткі, сотні подпісаў атрымлівае «ЛіМ» у падобных выпадках. Тут жа падпісана коратка: «Старшыня прафкома Л. Г. Кавалевіч, дырэктар завода В. І. Кудрачоў». Ах, якая сціпласць: бог, цар і воінскі начальнік прадпрыемства захінуўся савецкім прафсаюзам! Тыя здаўна прызвычаіліся глядзець у рот начальству, лізаць яму «пяткі і ля пупа складкі», так што падпішуцца пад чым заўгодна. Не ясна з парткомам: ці яго ўжо няма на заводзе, ці сакратар мае сваю галаву на плячах і не пайшоў на авантуру.

Але самае прыкрае ў гэтай гісторыі, што ініцыятары звароту арганізавалі абмеркаванне ў цэхах. Ну пісалі б ад сябе, калі «дах паехаў»! Не ўцягвалі б у афёру айчынных пралетарыяў.

Штуршком для ініцыятывы паслужыла вядомая брашура А. Салжаніцына «Як нам упарадкаваць Расію», дзе пра РСФСР, Украіну, Беларусь і частку Казахстана гаворыцца як пра магчымую агульную дзяржаву — пасля таго, як адваляцца ўсе астатнія рэспублікі. Завадчане пайшлі далей. У «Звароце да Вярхоўнага Савета БССР, да ўсіх прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і арганізацый рэспублікі» ўсур'ёз прапануецца абмеркаваць пытанне аб добраахвотным уваходжанні суверэннай Беларускай рэспублікі ў склад Расійскай Федэрацыі шляхам усенароднага рэферэндума. Наўрад ці спадзяваўся паважаны аўтар, што яго «посильные заметки» ўспрымуцца некаторымі «ісцінна-рускімі» патрыётамі як прамое кіраўніцтва да дзеяння! Той-сёй, відавочна, засумаваў па дырэктывах, бо іх становіцца ўсё менш і менш...

Так, сацыяльна-эканамічнае становішча ў рэспубліцы складанае, з крызісу не выйдзеш так проста — «адкрытым галасаваннем». Аднак ці варта, таварышы, кідацца з агню ды ў полымя? Не тая зараз «палітычная сытуацыя», сказаў бы не пазбаўлены практычнага розуму Нікіцій Зносілов. Уяўляю, як бы смяяўся свет з БССР, каб яна надумалася адмовіцца ад аб'яўленага суверэнітэту і ўліцца ў лона «вялікай і недзялімай». І гэта ў час, калі адна за другой дэкларуюць аб самастойнасці нават аўтаномныя дзяржаўныя ўтварэнні!

Аўтары звароту да ўсіх жыхароў нашай рэспублікі папракаюць беларускіх парламентарыяў за малую дасведчанасць у сферы матэрыяльнай вытворчасці. Ім жа самім мы б хацелі напомніць пра наступнае: выхад звычайна знаходзіцца там, дзе быў уваход...

ЛІМАВЕЦ.

# ЗВАРОТ

**да Старшыні Вярхоўнага Савета Беларускай ССР тав. Дзямянцея М. І., да народных дэпутатаў Беларускай ССР**

Паважаны Мікалай Іванавіч!

Шаноўныя народныя дэпутаты!

Мы, беларускія пісьменнікі звяртаемся да вас з наступным.

Заснавальнік нашай дзяржавы Уладзімір Ільіч Ленін марыў пра тое, каб увесь народ прылучыць да здабыткаў айчыннай і сусветнай культуры. Культура, на яго думку, павінна быць у аснове савецкага будаўніцтва. У нас жа даўнымдаўно, на жаль, яна фінансуецца па астатакаваму прынцыпу, што гаворыць пра «клопаты» пра яе, магчымасці яе развіцця.

Цяпер на развіццё культуры ў рэспубліцы адпускаецца да васьмі дзесятых працэнта бюджэту, што ўдвая менш агульнасаюзнага мізэрнага паказчыка. У абставінах вольнага рынку, у які мы ўступаем, тыя дзвары працэнты бюджэтна-фінансавай гарантыі, якую мяркуецца даць, — гэта тыя ж самыя сённяшнія 0,8 працэнта, калі нацыянальная культура можа толькі дыхаць, але не развівацца. Пра гэта сведчыць катастрафічнае становішча, у якім апынуліся беларускамоўныя часопісы, газеты, выдавецтвы.

Сацыяльную і юрыдычную абароненасць літаратуры, мастацтва — культуры ўвогуле — можа забяспечыць толькі «Закон аб культуры». Прымаць яго трэба неадкладна! Трывога наша выклікана тым, што ў парадку дня чарговай сесіі Вярхоўнага Савета БССР абмеркаванне такога Закона адсутнічае. Мы звяртаемся з просьбай гэты Закон разгледзець неадкладна. На гістарычным пераломе нашага жыцця, на шляху шматпакутнага адраджэння нацыі не марудзьце, не дапускайце далейшага паглыблення духоўнага Чарнобыля. Эканоміка, дабрабыт без культурнага ўзнаўлення немагчымы.

**Кандрат Крапіва (К. К. Атраховіч), Янка Брыль, Васіль Быкаў, Пімен Панчанка, Максім Танк (Я. І. Скурко), Іван Шамякін, Вячаслаў Адамчык, Іван Аношкін, Мікола Аўрамчык, Рыгор Барадулін, Данута Бічэль-Загнетава, Мікола Гіль (М. С. Гілевіч), Сяргей Грахоўскі, Анатоль Грачанікаў, Аляксей Дудараў, Анатоль Жалязоўскі, Алесь Жук, Ніна Загорская, Сяргей Законнікаў, Алесь Звонак, Васіль Зуёнак, Вольга Іпатава, Віктар Каваленка, Віктар Казько, Уладзімір Калеснік, Віктар Карамазаў, Аляксей Карпюк, Яўген Каршукоў, Анатоль Кудравец, Уладзімір Ліпскі, Алег Лойка, Максім Лужанін (А. А. Каратай), Адам Мальдзіс, Георгій Марчук, Ніна Мацяш, Іван Навуменка, Сяргей Панізнік, Уладзімір Паўлаў, Алесь Петрашкевіч, Алесь Пісьмянкоў, Мікола Пракаповіч, Іван Пташнікаў, Вячаслаў Рагойша, Алесь Разанаў, Алег Салтук, Барыс Сачанка, Янка Сіпакоў, Ян Скрыган (І. А. Скрыган), Віктар Супрунчук, Васіль Ткачоў, Іван Чыгрынаў, Аляксандр Шабалін, Віктар Шымук, Уладзімір Юрэвіч.**

# КЛІЧ КАСАНДРЫ

Багі надзялілі Касандру, дачку цара Трої, прарочым дарам. Яна прарочыла пагібель роднаму гораду, заклікала траянцаў да розуму. Ёй не захацелі верыць. Троя загінула. Так сведчыць Гамэрава «Іліяда».

«Кліч Касандры» — так называецца выстаўка карцін мастакоў Беларусі, Украіны, Расіі, Германіі, Латвіі, Эстоніі, якая адкрыта ў мінскім Палацы мастацтваў. Для мастака міф гэты поўны глыбокага сэнсу. Вось што сказаў аб асноўнай ідэі выстаўкі адзін з яе арганізатараў нямецкі мастак Крыстаф Ніс:

— Свет стаіць на парозе катастрофы. Ядзерная зброя, экалагічныя катастрофы, эканамічныя праблемы пагражаюць чалавецтву знішчэннем. Мастак, быццам Касандра, ясней за іншых усведамляе надыходзячую небяспеку. Яго абавязак — папярэдзіць людзей, не даць ім зрабіць апошні крок да бездані. Гэтай высакароднай мэце і служыць наша выстаўка.

Крыстаф Ніс і іншыя прадстаўнікі нямецкай творчай інтэлігенцыі, якія прыехалі ў рэспубліку, — члены місіі «Збавенне», арганізацыі, што ўзнікла ў ФРГ больш чым трыццаць гадоў назад. Наша рэспубліка, якая зведала на сабе вынікі Чарнобыльскай катастрофы, на думку прадстаўнікоў місіі, мае патрэбу ў міжнароднай дапамозе.

Разам з зарубежнымі гасцямі ўдзельнікамі дабрачынных акцый сталі беларускія музыканты і артысты. Яны выступаюць у канцэртах, увесь збор ад якіх будзе пералічаны ў фонд выратавання дзяцей Чарнобыльскай зоны.


У. ЛУКАШЫК. «Лістападаўскі вецер».


Ю. МАКАРАЎ. «Старое дрэва».


А. САЛЯТЫЦКІ. «Апантаны».


М. КІРЭЕЎ. «Доўгі дзень».

# АБНАЎЛЕННЕ ОРГАНАЎ?

Нядаўна да мяне на прыём прыехалі жыхары Мазыра Ніна Аксёнчык і Уладзімір Малашчанка і расказалі пра тое, як сёлета праходзілі ў іх Дзяды...

Пасля таго, як на пачатку 30-х гадоў мазырскія атэісты выкінулі з Міхайлаўскага сабора ўсіх святых, пад зводы храма прыйшлі супрацоўнікі НКУС. Няшмат часу спатрэбілася «людзям з халоднымі галовамі і чыстымі рукамі», каб перабудаваць сутарэнні сабора ў турэмныя камеры...

У суботу, 3 лістапада, удзельнікі мазырскай групы БНФ паставілі ў памяць закатаваных свечкі. А потым рушылі да мясцовага КДБ, што на вуліцы Леніна. За некалькі дзесяткаў метраў ад будынка іх сустрэлі тры чалавекі ў скураных плашчах. «Что у вас за праздник?» —«Дзяды, дзень памінання продкаў». — «Ну-ну...»

Не паспела невялічкая група падысці і паставіць свечкі ля дома, пра які мазыране гавораць шэптам, як расчыніліся жалезныя вароты, выбеглі некалькі салдат, вырвалі з рук плакаты. А тут яшчэ наляцелі тыя трое ў скураных паліто, і адзін, найбольш раззлаваны, пачаў таптаць нагамі свечкі. Калі са свечкамі было скончана, салдаты схапілі У. Малашчанку і зацягнулі яго за вароты, у двор. Там да справы прыступілі трое ў цывільным. Білі нагамі. Аднаму з удзельнікаў шэсця ўдалося зрабіць некалькі здымкаў, але ў яго імгненна адабралі фотаапарат і засвяцілі плёнку. Праўда, другі фотаапарат не заўважылі...

І ўсё ж сляды гэтай аперацыі засталіся не толькі на фотаздымках. Засталіся і кровападцёкі на целе У. Малашчанкі.

Але калі разам са старшынёй Мазырскай рады БНФ выкладчыкам педінстытута Н. Аксёнчык ён прыйшоў у міліцыю, каб узяць накіраванне ў судмедэкспертызу, намеснік начальніка райаддзела Іван Кірылавіч Пазняк яму адмовіў. Праўда, пісьмова абгрунтаваць сваё рашэнне Іван Кірылавіч таксама не пажадаў. Адзінае, што неадкладна зрабіў прадстаўнік улады — затэлефанаваў начальніку мазырскай філіі КДБ Уладзіміру Уладзіміравічу Нічыпарэнку. Калі апошні прыехаў у райаддзел, пацярпелыя прызналі ў ім... таго самага тыпа ў цывільным, які таптаў свечкі і біў нагамі Малашчанку. Дарэмна Малашчанка і Аксёнчык чакалі ад прадстаўніка КДБ прабачэння — відаць, пакаянне не ў традыцыях гэтай установы. Затое, карыстаючыся выпадкам, Нічыпарэнка правёў прафілактычную гутарку, якую скончыў словамі: «Мы вами всерьез еще не занимались, но теперь — держитесь!»

І пакуль у кабінетах мазырскай філіі КДБ распрацоўваецца стратэгія і тактыка барацьбы з нефармаламі, а мо і нейкая канкрэтная акцыя (на носе ж — каляды, трэба спяшацца), я мушу працытаваць словы Эдуарда Іванавіча Шыркоўскага, сказаныя ім пры зацвярджэнні Вярхоўным Саветам рэспублікі на пасаду старшыні КДБ БССР: «Абнаўленне нашага грамадства закранула ўсе бакі дзейнасці чэкісцкіх органаў. На першы план вылучаецца чалавек, безумоўная павага да яго асобы, захаванне правоў і свабодаў грамадзян. Барацьба не супраць, а за чалавека, нават калі ён аступіўся, трапіў у цяжкую сітуацыю—вось наша галоўная задача. Няўхільнае выкананне законнасці па духу і форме. Мы працуем, строга прытрымліваючыся Канстытуцыі рэспублікі, выконваем Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека».

Гэтыя словы старшыні КДБ, дзякуючы прамой радыётрансляцыі, чула ўся рэспубліка.

За дзеяннямі ж мазырскіх чэкістаў назіралі некалькі чалавек...

**Сяргей НАВУМЧЫК,**
**народны дэпутат БССР, сакратар Камісіі ВС БССР па пытаннях галоснасці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека.**

# ПАДАЙЦЕ ПРЫКЛАД!

Адкрыты ліст Старшыні Вярхоўнага Савета БССР тав. Дзямянцею Мікалаю Іванавічу і першаму сакратару ЦК КПБ тав. Сакалову Яфрэму Яўсеевічу.

**Паважаныя Мікалай Іванавіч і Яфрэм Яўсеевіч! У цяперашні час у рэспубліцы склалася крытычная палітычная, эканамічная і сацыяльная абстаноўка, выкліканая адсутнасцю на спажывецкім рынку харчовых і прамысловых тавараў, жыллёвай праблемай, нездавальняючай работай камунальных і бытавых службаў, разгулам злачыннасці, мафіі ў розных сферах чалавечай дзейнасці, непераадольнай сілай бюракратызму партыйнага і дзяржаўнага апарату, барацьбой за сваё існаванне адміністрацыйна-каманднай сістэмы і г. д.**

**Усё сказанае вышэй — не пустыя словы, а рэальныя факты жыцця рэспублікі, у прыватнасці — жыцця выбаршчыкаў 20 Аэрафлоцкай акругі г. Мінска, дзе я балаціруюся кандыдатам у народныя дэпутаты Беларускай ССР.**

**Баліць душа ад таго, у якіх умовах і на якія сродкі жыве значная частка насельніцтва акругі, і яшчэ больш яна баліць ад таго, што нікому да іх няма справы.**

**У той жа час на вачах у беларускага народа пэўная частка грамадства (партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі) карыстаюцца ўсялякага роду прывілеямі і спецвыгодамі (палепшанае жыллё ў прэстыжных раёнах, спецдачы, спецпаліклінікі, спецатэльe і іншыя спец.). Функцыянуюць на тэрыторыі рэспублікі ўсялякага роду «белыя» і іншыя асабнякі, пра што нас інфармавала Часовая камісія Вярхоўнага Савета БССР па прывілеях праз саюзны і рэспубліканскі друк.**

**Сёння «высокія» кіраўнікі і вы, у тым ліку, адчуўшы нядобрае, тэрмінова ў прыгарадзе Мінска пачалі ўзводзіць асабістыя дачы.**

**Акрамя таго, на мой погляд, ідзе кампраметацыя нявопытных палітыкаў, недасведчаных у апаратных гульнях народных дэпутатаў Беларускай ССР праз вылучэнне ім нейкіх дробных выгод, пра што вы ведаеце лепш за мяне.**

**Усе гэтыя негатыўныя з'явы яшчэ больш напаляюць і без таго выбухованебяспечную абстаноўку ў грамадстве і кампраметуюць радавых членаў партыі і кіраўнікоў, якія працуюць «унізе», на плячах якіх ляжыць увесь цяжар выканання народнагаспадарчых задач. У той жа час людзі, не ўнікаючы ў дэталі, залічваюць і нас у вашу кампанію і менавіта нам прад'яўляюць за вас прэтэнзіі ў сувязі з тым, што іменна мы працуем непасрэдна ў народзе.**

**З мэтай зняцця (няхай часткова) сацыяльнага напружання, а таксама дзеля асабістага ачышчэння прапаноўваю вам, Мікалай Іванавіч і Яфрэм Яўсеевіч, адмовіцца публічна ад усіх гэтых выгод і прывілеяў, пераехаць у «нармальныя» кватэры (перадаўшы свае шматдзетным сем'ям), напрыклад, у выбарчай Аэрафлоцкай акрузе № 20 і карыстацца ўсімі тымі паслугамі і выгодамі, якія створаны для народа пад вашым кіраўніцтвам.**

**Адначасова прапаноўваю перадаць пад жыллё ўсе дачныя комплексы, якія займаюць «слугі» народа (пп. Гарадзішча, Атоліна і г. д.), людзям, якія жывуць у Чарнобыльскай зоне, а ўсе «зашыфраваныя» асабнякі — пад дзіцячыя санаторыі.**

**Акрамя таго, чарговая сесія Вярхоўнага Савета павінна неадкладна ў заканадаўчым парадку ліквідаваць усе прывілеі.**

**З павагай —**

**В. РАКЕЦКІ,**
**кандыдат у народныя дэпутаты Беларускай ССР, член КПСС з 1966 г., дырэктар цэнтра «Беларгснабпраект».**

# Асцярожна: лістапад!

## Пасля аднаго парада і дзвюх дэманстрацый

7 лістапада сярод дэманстрантаў, што рушылі пад бел-чырвона-белымі сцягамі з мінскай плошчы Якуба Коласа на плошчу Леніна, было шмат моладзі. На куртцы аднаго з хлопцаў я заўважыў значок. Пяць залатых зорачак на чырвоных планках — акурат столькі, колькі было ў нябожчыка Леаніда Ільіча. Заўважыў не толькі я. Многія ўсміхаліся. Я не стаў бы ўспамінаць гэтую нязначную дэталь, калі б не ўсмешкі самых розных людзей. Здаецца мне, апошнім часам мы пачалі страчваць нармальныя чалавечыя рэфлексы. Пацiху адвучваемся нязмушана ўсміхацца, шчыра, ад душы смяяцца.

Што і казаць, не да смеху нам зараз — у бясконцых чэргах па масла, цыгарэты, мыла і па... талоны на іх. Ды хіба толькі ў ганебным дэфіцыце справа! На рабоце і дома, дый на дэманстрацыях не адпускае адна трывожная думка: што з намі будзе? Што будзе з нашымі дзецьмі, з нашымі старымі бацькамі?

**Нядаўна ўвайшло ў моду слова з лагернага лексікону: «беспредел». «Беспредел» даўно ўжо наступіў у тым вялікім усесаюзным лагеры, у якім мы жылі ад нараджэння. «Народжаныя ў няволі»? Шчаслівыя людзі — мы маглі весела смяяцца на афіцыйных дэманстрацыях, куды нас, студэнтаў, заганялі пад прымусам. Біялагічны аптымізм браў сваё. Дый, здавалася, не тычыліся нас «іхнія» партыйныя лозунгі. У іх, маўляў, сваё жыццё, у нас — сваё. (І сапраўды, калі ўспомніць, нават у самых найрадавых камуністаў быў прывілей: удзельнічаць у закрытым партыйным сходзе. Значыць, нешта хавалі ад народа? Іншая справа, што ведаць гэтыя тайны нармальнага чалавека ніколі не цягнула). Усім, аднак, трэба было выконваць правілы гульні, не намі выдуманай. Для большасці яна пачыналася ў дзіцячым садку і заканчвалася на могілках. Многія з нас не жылі, а рыхтаваліся жыць. («Калі ж прыйдзе сапраўдны дзень?») Хай там, наверсе, дурні і прайдзісветы. Затое ў нас багаты ўнутраны свет, бессмяротная душа. Як толькі анёл затрубіць, мы абудзімся ад сну паўсядзённасці і прад'явім гораду і свету ўсё, што маем. І вось анёл затрубіў — першы, другі, чацвёрты... Але ж людзям, што тут зробіш, па-ранейшаму няма справы да багаццяў чалавечай душы, чалавеку няма справы да іншага чалавека. А калі ідзём на дэманстрацыю, дык аб'ядноўвае нас не столькі рух чалавечай душы, не столькі пачуццё салідарнасці і братэрства, колькі — зноў, у каторы раз! — яе вялікасць ідэя.**

«Далоў камунізм!» — грымела над вуліцамі і плошчамі многіх гарадоў. А вакол пунсавелі лозунгі (развешаныя нямаведама за чый кошт): «Таварышы! Будзем верныя ідэалам Кастрычніка, адстаім імя і справу Леніна!» Дарэчы, мне не зусім зразумела, чаму прадаўжальнікі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі заўсёды клянуцца імем Леніна і ніколі імем другога правадыра, паплечніка Ільіча — Троцкага? Ну, ды гэта ўжо неістотна.

Верныя ленінцы, што не могуць паступіцца прынцыпамі, сапраўды гатовы адстойваць «построенный в боях социализм» да апошняга — любымі даступнымі іх разуменню сродкамі. Напрыклад, з дапамогай заявы ЦК адной асобна ўзятай партыі, якая ў дырэктыўным тоне патрабуе ад урада рэспублікі «паставіць заслон». А калі трэба, можна і ў рукапашную пайсці за прынцыпы. Акцыя пратэсту супраць парада ў Мінску 7 лістапада, якую праводзілі два мужныя чалавекі (да гэтага яны трымалі палітычную галадоўку), выклікала ва ўдзельнікаў пракамуністычнай маніфестацыі прыступ ярасці. Яны гатовы былі разарваць гэтых людзей разам з іх палаткай на шматкі. Аўтадафэ магло б і адбыцца, калі б не актывісты БНФ, рабочага і сялянскага саюзаў, Лігі жанчын Беларусі, народныя дэпутаты і проста мінчукі, што яшчэ напярэдадні прыйшлі на дапамогу галадаючым. Ды й міліцыя, якой у той дзень дасталося з усіх бакоў, сумленна выканала свае абавязкі.

Яшчэ адзін найноўшы лозунг КПСС быў напісаны на шматлікіх транспарантах: «Суайчыннікі! Грамадзянскае пагадненне — адзіны шлях у будучыню!» Няўжо гэта дзеля яго падмацавання бразгатала ваенная тэхніка па плошчах сталіц суверэнных рэспублік пад настальгічна-бравурныя маршы сталінскае эпохі? Зрэшты, і ў самім лозунгу ёсць нешта такое... Адчуваеце — адзіны шлях у будучыню? Заклік да грамадзянскага пагаднення ў такім катэгарычным кантэксце гучыць як заклік да грамадзянскай вайны. Для таго, каб будаваць грамадзянскае супольніцтва, да якога мы нібыта імкнёмся, па-мойму, не хапае галоўнага — свабодных грамадзян. Калі свабода — усяго толькі ўсвядомленая неабходнасць, дык мы свабодныя. А калі свабода — гэта самастаянне чалавека, незалежнасць матэрыяльная і духоўная, дык мы і не пачыналі рухацца ў яе бок.

Мне іншы раз здаецца, што над намі ўсё яшчэ пануе дух паганства, не закранутага культурай. Адны ўсё яшчэ ўзносяць модлы багам і бажкам Рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, ускладаюць да іх рытуальныя вянкі і кветкі, іншыя ж — глумяцца над учарашнімі ідаламі і ўсчынаюць вакол іх рытуальныя скокі. Але ж ідалішчы руйнуюцца толькі тады, калі чалавек вырастае вышэй за іх, калі ён смяецца з іх, смяецца з сябе, учарашняга, са сваіх ірацыянальных страхаў.

Пакуль жа нам не да смеху. Пасля мітынгаў і дэманстрацый мы зноў разбегліся па сваіх звыклых чэргах. Напярэдадні зіма, трэба рабіць запасы. А калі запасаў не хопіць? Тады што — новы Люты? Ці Снежань (як у Румыніі)?

Некалі адзін разумны чалавек сказаў: «Дапусцім, ты разаб'еш галавой сцяну. Што ты будзеш рабіць у суседняй камеры?» Руйнаваць сцены, як высветлілася, справа не самая складаная. Прынамсі, пра гэта сведчыць Берлінская сцяна, нядаўні сімвал таталітарызму. Угодкі яе прарыву, як і ўгодкі «пяшчотных рэвалюцый» у краінах Усходняй Еўропы днямі адзначыла, кажучы колішнімі штампамі, усё прагрэсіўнае чалавецтва.

А ці доўга засталося існаваць сценам з догматаў айчыннай вытворчасці? Толькі дзе гарантыя, што пасля іх знішчэння мы не пачнём, па звыклай завядзёнцы, узводзіць новыя сцены, яшчэ мацнейшыя?..

**Віталь ТАРАС.**











Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ і У. ПАНАДЫ

# Дзяды-90










Фота А. КЛЕШЧУКА і У. ПАНАДЫ.

**Кожны чалавек мае тры імя. Прозвішча — імя родавае, імя па бацьку — сямейнае, уласнае імя — тое, што бацькі даюць пры нараджэнні. Ёсць і чацвёртае імя — імя народа, да якога ты належыш. Да ўсведамлення сувязі свайго лёсу з лёсам нацыі чалавек можа ісці ўсё жыццё. Можа не прыйсці ніколі. Асабліва на Беларусі, дзе гістарычна склалася, што быць «палякам» ці «рускім» куды як лягчэй.**

**Сёння ўсё болей беларусаў успамінаюць сваё сапраўднае імя. А дзень памінання продкаў з сямейнай падзеі становіцца Днём нацыянальнага яднання. У гэты дзень мы памінаем не толькі сваіх родных, але ўсіх пакутнікаў Беларусі.**

**Мы памятаем Дзяды 1988 года, памятаем мінулагоднія Дзяды, калі быў пастаўлены і асвечаны Крыж пакут у Курапатах.**

**І сёлета 3 лістапада Дзяды праходзілі пад знакам памяці ахвяраў сталінскага тэрору. Галоўныя падзеі адбыліся ў парку Чэлюскінцаў (былы лес пад назвай Воўчы Хвост). Тут, як і ў Курапатах, расстрэльвалі ні ў чым невінаватых людзей. Шэсце пачалося ад плошчы Мяснікова. Дэманстранты неслі бел-чырвона-белыя сцягі з жалобнымі стужкамі, знакі «Пагоні», плакаты з патрабаваннямі змяніць назвы шэрагу вуліц і праспектаў Мінска.**

**Па шляху следавання шэсця інцыдэнтаў не было, калі не лічыць таго, што адбыўся ля бюста Ф. Дзяржынскага, што насупраць будынка МУС-КДБ. Група пенсіянераў накінулася на пікетчыкаў, якія трымалі плакат з пералікам «заслуг» заснавальніка бальшавіцкай катоўні, і на вачах дружыннікаў у скураных паліто разарвалі плакат і патапталі бел-чырвона-белы сцяг. Каля будынка КДБ быў пастаўлены памятны камень у памяць вязняў, якіх адпраўлялі адсюль у Курапаты, і сімвалічны алтар са свечкамі. (Ноччу невядомыя людзі знеслі алтар і камень, яго зноў паставілі 7 лістапада, ён зноў ноччу знік...).**

**Шэсце спынялася на рагу вуліц, якія, на думку грамады, патрабуюць перайменавання, тут праводзіліся кароткія мітынгі. На пляцы Перамогі дэманстранты схілілі нацыянальныя сцягі ля Вечнага агню.**

**У былым лесе Воўчы Хвост, недалёка ад таго месца, дзе стаіць помнік савецкім грамадзянам, загінуўшым у час Айчыннай вайны, адбыўся мітынг-рэквіем, там быў пастаўлены крыж-капліца, зроблены рукамі выкладчыкаў і студэнтаў тэатральна-мастацкага інстытута. На мітынгу прагучалі словы вязняў сталінскага ГУЛАГа і брэжнеўскіх лагераў, выступалі лідэры БНФ, літаратары, праспяваў хор беларускай каталіцкай грамады. Таго ж дня а 19-ай гадзіне ў Доме літаратара Фонд культуры і Саюз пісьменнікаў наладзілі вечарыну з нагоды Дзядоў.**

**Прапануем увазе чытачоў фрагмент выступлення на адкрыцці крыжа-капліцы Васіля ХОМЧАНКІ.**

●

ШАНОЎНЫЯ СЯБРЫ, спадарыні, спадары!

Мы сабраліся сюды ў гэты злавесны лес напярэдадні 73-й гадавіны афіцыйнага дзяржаўнага свята, якое называлі Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыяй, а цяпер называюць кастрычніцкім контррэвалюцыйным пераваротам.

(...)Пасля страшнага тэрору першых гадоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, новым пікам такога ж страшнага тэрору быў сталінскі — у трыццатыя-саракавыя гады. Мільёны сыноў народаў краіны, эліта, мозг нацыі былі знішчаны без віны.

Беларусь наша, бадай, як ні якая іншая рэспубліка, пацярпела ад сталінскага тэрору. Была разбурана вёска, лепшыя гаспадары-сяляне знішчаны. Знішчылі самы працаздольны пласт народа.

Я меў няшчасце асабіста трапіць пад сталінскую крывавую сякеру. Быў вязнем ГУЛАГа, канаў у тайзе на катаржных работах. Але мне пашчасціла выжыць. Я адзін са шматлікіх сведкаў злачынстваў сталінскіх катаў. Некалькі месяцаў я знаходзіўся ў перапоўненых камерах сумна знакамітага дома на вуліцы Урыцкага ў Мінску. З таго дома і пачыналася дарога — для адных у ГУЛАГ, другіх — у лес, у брацкія магілы.

Колькі ж магіл змясціла ў сябе наша шматпакутная беларуская зямля! Яны зараслі травой забыцця, і ці знойдзеш іх, у якіх ляжаць невінаватыя людзі з прастрэленымі чарапамі. Хто тыя людзі, мы яшчэ не ўсіх ведаем. «И надо бы всех поименно назвать, да отняли списки и негде узнать», — напісала некалі Ганна Ахматава.

Нам вядомы непасрэдныя выканаўцы загадаў галоўнага забойцы і ката Сталіна. Гэта былыя наркомы НКУС БССР Малчанаў, Берман, Наседкін, Цанава. Не так даўно былі абнародаваны некаторыя следчыя матэрыялы на Наседкіна. Той забойца, расказаўшы пра метады следства, назваў прыблізна лічбы сваіх ахвяр: пры Бермане было расстраляна больш за 80.000, а пры ім, Наседкіне, каля 100.000 чалавек. Страшэнная лічба! І гэта толькі за нейкія дваццаць месяцаў службы тых двух наркомаў. Гэтыя каты самі потым атрымалі кулі ў патыліцы. А колькі катаў яшчэ ходзіць па нашай зямлі, жывуць сабе спакойна, атрымоўваюць добрыя пенсіі, пайкі.

Курапаты сталі вядомыя ўсяму свету. Але, акрамя Курапатаў, ёсць у Мінску і меншыя Курапаты.

Адным з месц, дзе расстрэльвалі ў пачатку трыццатых гадоў, і гэты лес, былая ўскраіна Мінска.

Дакладна вызначыць месца расстрэлаў цяжка. Можна назваць плошчу, раён.

Нельга назваць і дакладную лічбу ахвяр. У беларускай зямлі іх сотні тысяч. І калі затрубяць у сваю трубу архангелы, склікаючы ўсіх на суд, то зямля наша скрозь заварушыцца. Гэта пачнуць уставаць мёртвыя, расстраляныя і замучаныя сталінскімі катамі. Яны ўстануць і спытаюць перш за ўсё ў саміх сябе і ва ўсіх тых, хто жыў тады: чаму дазволілі захапіць і вяршыць уладу крывавай дыктатуры? Чаму народ даў сябе падмануць бальшавіцкай дэмагогіі аб светлым будучым? Чаму даў сябе ператварыць у рабоў?

Але расстраляных не ажывіш.

Дык няхай памяць аб іх застанецца ў народзе назаўсёды.

Спакой вам, нашы суайчыннікі, зямля вам пухам.

І даруйце нам, што мы раней не маглі прыходзіць на вашы магілы. Нам тады не давалі гаварыць пра вас праўду, а ад магіл адганялі дубінкамі.

браз Сідара Місцюка, створаны В. Казько ў «Хроніцы дзетдомаўскага сада».

Чаго толькі ні намешана ў характары Данілюка — па словах У. Караткевіча, і «чорнай», і «белай» мукі! Але ёсць у ім дамінанта. Ён — летуценнік, прыродны і сацыяльны. І як часцей за ўсё наканавана летуценнікам, жыве ў двайным свеце: з аднаго боку — звычайны стрэлачнік, алкаголік, які «п'е па-чорнаму», з другога — дзівак, які ў свае «добрыя сорак» гадоў просіцца на вайну ў Афганістан. Аднак летуценнікам ёсць месца ў жыцці, калі іх рамантычныя імкненні, узнёслыя мары падтрымліваюцца рэчаіснасцю. Калі ж у жыцці пераболышвае негатыўнае, тады мы гаворым пра лішняга чалавека, лічым, што не ў свой час нарадзіўся герой. Вось і жыццё Данілюка, па думцы аўтара, «было проста ўкрадзена ці канфіскавана ў яго». Яго дачасная смерць — гэта пратэст супраць бездухоўнасці, антыгуманнасці грамадства.

Не дажывуць свайго прыроднага веку і сябры Но Пасарана: Юрачка Пратуберанец і Валодзька Цыган. Былыя арганізатары «штаба сусветнай рэвалюцыі», яны цяпер «вядомыя ўсяму гораду п'яніцы і алкаголікі». Іх вобразы акрэслены лаканічна, але выразна. Сутнасць юнацкага светапогляду персанажаў па-народнаму трапна раскрываюць мянушкі, асаблівасці іх сённяшняга стану выкрываюцца ў сацыяльным статусе. Валодзька Цыган — «просты савецкі вязень», «вечны арыштант». Юрачка Пратуберанец — «баец мясакамбіната», «злодзей у законе». У іх лёсах адлюстравана яшчэ адна драма нашага часу, з якой мы сустракаемся кожны дзень.

Невялікая па памерах раманная аповесць В. Казько «Но Пасаран» надзвычай ёмкая па праблематыцы, насычанасці думкі. Філасофскай, гістарычнай, сацыяльнай, псіхалагічнай змястоўнасці на малой мастацкай прасторы ўдалося дасягнуць пісьменніку праз вобразна-стылявую пластыку, шматмернасць слова, эстэтычную выверанасць усёй структуры твора, арганічную еднасць эстэтыкі і рэальнасці.

**Н. КАПШАЙ,**
**выкладчыца ГДУ імя Скарыны.**
г. Гомель.

**Грыгорый КОЧУР**

## *Санет інцінскае вясны*

Часамі тут зімовае паветра
Дыхне гніллём інцінскае вясны:
Прарвецца знекуль віхар навясны,
Раптоўным жэстам з неба хмары вытра.

То небасхіл зацягнуць зноў яны,
І чутнай йгру чартоўскай цытры,
А краявід маўклівы і няхітры
П'е сонны плач дажджлівае струны.

Вось гэты, бы спалоханы, блакіт,
Цяпла чужога змучаны прывід,
Сумнеў, што век не маладзее —

Цяжкі адчай навейвае тут мне,
Ды бледна, па-паўночнаму кране
Душу часамі кволая надзея.

*Віншуем!*



**Сёння спаўняецца 85 гадоў аднаму са старэйшых і паважаных пісьменнікаў, адмысловаму навелісту Яну Скрыгану. Рэдакцыя «ЛіМа» далучаецца да віншаванняў юбіляра і зычыць Яну Аляксеевічу здароўя, доўгіх гадоў жыцця і творчага плёну.**

# ЗАМЕСТ НЕАДАСЛАНАЙ ТЭЛЕГРАМЫ

Дарагі Янка!

Наважыўся адбіць табе тэлеграму, але што ў ёй скажаш? «Віншую і жадаю». Па дарозе апанавалі ўспаміны, мінуў пошту, а ў памяці круцілася далёкае і блізкае, перажытае разам і паасобку. Аж страшна падумаць,— мінула 59 гадоў як мы знаёмыя, як таварышуем і дружым. Успомнілася наша маладосць, ды так выразна, што не магу не нагадаць нешта, можа, забытае табою, а тваім прыхільнікам расказаць не ведомае ім.

З тоненькае маладнякоўскае кніжачкі «Слуцкія песняры» кінуліся ў вочы «мадэрновыя» вершы Янкі Відука, «скляпаныя» ў духу пераможнага пафасу тае пары. Потым у «Маладняку» прачытаў верш «Наборшчык». Гэта ўжо быў іншы Відук, уважлівы да чалавека, да яго майстэрства і сам патрабавальны да паэтычнай формы.

У 1930 годзе ў хірургічным аддзяленні Бабруйскай бальніцы, відаць, каб не стагнаў і не думаў пра сваю бяду, доктар даў мне невялічкую кніжачку «Затока ў бурах» Янкі Скрыгана. Проза мяне тады мала вабіла, і я не збіраўся вельмі ўчытвацца, але нечакана з першай старонкі апынуўся ў такім знаёмым і дарагім мне свеце, убачыў «Палыны і межы. Дарогі горкнуць пылам. Па іх марудна і лена цягнуцца фурманкі». Да болю адчуў, як «Прымоўкла сяло. А ў д а в е л а». Адно слова, а колькі ў ім шчымлівага смутку, колькі чалавечага гора! Гэта ж трэба,— сяло аўдавела. Да поўначы дачытаў праўдзівы расказ пра лёс Алесі і Наталлі, Андрэя і Рыгора. Настрой ад кнігі доўга не пакідаў мяне.

На пачатку першай пяцігодкі амаль усіх пісьменнікаў мабілізавалі на «ліквідацыю прарыву», «на барацьбу за высокія тэмпы і перавыкананне плану». Мы тады верылі ў ілюзію сваёй неабходнасці на прымітыўных фабрыках і заводзіках, пісалі барабанныя вершы і пафасныя нарысы, жывасілам заганялі «ўдарнікаў» у літаратуру».

Тады ж у большым пакоі Дома пісьменнікаў адкрылася выстаўка прадукцыі штурмавых пісьменніцкіх брыгад. Побач з кніжачкай «Недапісаны профіль» пра «Гомсельмаш» быў рукапіс і партрэт Янкі Скрыгана. Я ўглядаўся ў дробненькі почырк, каб спасцігнуць сакрэт пісьменніцкай лабараторыі. Азірнуўся і побач пазнаў аўтара «Недапісанага профіля». Невысокі, зграбны з пукатым ілбом, невялічкім носікам, вострым праніслівым позіркам. У абліччы было нешта знаёмае, некалі бачанае. Няўжо Відук і Скрыган—адна асоба?

Частыя наведвальнікі Дома пісьменнікаў, без афіцыйных знаёмстваў, хутка сыходзіліся, не зважаючы на ўзрост і рангі, шпацыравалі па Савецкай вуліцы, спускаліся па вузенькай лесвіцы ў сутарэнне пісьменніцкай сталоўкі. Выпадала так, што мы часта з табою абедалі за адным сталом. У тыя скупыя на радасці гады нашай маладосці часам бегалі ў крамку насупроць ла «чацвярцінку» або пляшку натуральнага беларускага віна. Памятаю: накінуў тваё скуранае паліто, увайшоў у магазінчык, як прадаўшчыца, нічога не пытаючы, падала «чацвярцінку». Я здзівіўся. ...«Бо добра ведаю, па што прыходзяць у гэтым паліце»,— засмяялася тая кабета. Усе тады жылі голадна, але весела і адкрыта.

Хоць была значная розніца ў нашым узросце, асабліва ў літаратурнай вазе, мы неяк хутка сышліся і пасябравалі. Я часам адзін або з Азгурам заходзіў у твой аднаваконны пакойчык на вуліцы Льва Талстога. Ці не знарок ты пасяліўся на вуліцы вялікага класіка? Сустракаліся ў цябе з будучымі медычкамі і пад патэфон вучыліся факстроціць.

Тады ты мне адкрыў забароненага свайго любімага Буніна. Я зачытваўся «Антонаўскімі яблыкамі», «Суходалам», «Домам ля дарогі» і знаходзіў нешта блізкае ў яго апавяданнях. Ужо ў нашы дні ты пераклаў том прозы свайго цёзкі Івана Аляксеевіча. Усе хвалілі твой пераклад. А для новага перавыдання ты сам нанава перапісаў усю кнігу. Я ўжо не кажу пра ўласныя творы.

У тую пару амаль усе святы адзначаліся разам у сталоўцы Дома пісьменнікаў. У 1934 годзе на майскім вечары ты пазнаёміў мяне з беленькаю, тоненькаю, як чарацінка, Лінаю. І мне была знаёмаю дарога да яе драўлянага дома і заглухлага саду на зялёнай Маркаўскай вуліцы.

Калі ты перасяліўся ў гэты дом з мезанінам і закручваўся ў рэдакцыі «ЛіМа», мы сустракаліся ўсё радзей і радзей, але я не прапускаў ніводнага твайго радка. У кожным апавяданні пазнаваў толькі табе ўласцівы каларыт і водар, слова зіхацела і пералівалася, яго нельга было замяніць ніякім іншым. Яно было адзінае. З тае пары запомніліся твае слоўцы і сказы: **«Бывалешнія гады»**, «Усімі **ўторамі** заліваўся **дыхавічны** гармонік», «**Падаткія** губы», «**Нарозьвіт**», «Калі яшчэ **бралася ў дзеўкі**». Ды хіба ж усё ўспомніш і працытуеш? Я цябе пазнаю з першага або другога радка па лексіцы, па натуральнай канструкцыі сказа, па асаблівым паветры, якім дыхае твой кожны твор. Ты ведаеш «тайну слова», бо здатны «бязлітасна выкідаць усё лішняе і непатрэбнае.» Таму так мала, марудна і сціпла пішаш. Я быў сведкам, калі ты па 15 разоў перапісваў пачатак аднае старонкі. Дай Бог кожнаму такой самаахвярнай патрабавальнасці.

Не абмінула нас з табою і страшная восень 1936 года. Пасля кашмарнай касталомні на следчых канвеерах праз год недабіткі пісьменнікаў апынуліся ў перасыльным сутарэнні Мінскай турмы. Усе мы дзяліліся апошнімі драбочкамі, лустачкамі і крошкамі і ніяк не маглі нагаварыцца. 16 кастрычніка 1937 года ўсіх нас пагналі на вакзал, і праз краты спецвагона мы развіталіся з Мінскам. Нечакана на пероне ўбачылі тваю Ліну. Уяўляю, колькі яна папахадзіла да этапных вагонаў, пакуль дацікавала цябе.

Пад раніцу мы апынуліся ў набітай людзьмі перасыльнай абозні Магілёўскай турмы, а праз тры тыдні развіталіся аж на дваццаць гадоў. У змроку кержанскіх лясоў я часта ўспамінаў усіх сяброў маладосці і той незваротны час. І не ведаў, што многіх няма ўжо на свеце.

Праз два дзесяцігоддзі адзінкі недатрушчаных нас вярталіся ў аднаўлены Мінск. Мы не баяліся ехаць сюды, бо нікому ніколі і вока не запарушылі. Я трохі прамарудзіў у сваёй сібірскай далечы, а ты з Пальчэўскім ужо былі рэдактарамі выдавецтва. Бліжэй за вас у мяне нікога ў горадзе не было. Я адчуў падтрымку і клопат. Неўзабаве выйшла кніжка тваёй прозы з шчымлівым паўпраўдзівым апавяданнем «Дом № 9». Тады яшчэ нельга было гаварыць, з якое «камандзіроўкі» ты вярнуўся праз дваццаць гадоў на папялішча свайго дома на Маркаўскай вуліцы. Суседзі запэўнілі цябе, што сям'ю праглынула полымя ў гэтым доме. Але сэрца бацькі, мужа і мастака не хацела верыць «у горкую праўду бяды, усё яшчэ спадзявалася на нешта». І не ашукалася. Твайго бялявага Севу разам з маці горкі лёс загнаў далёка ад радзімы. Яны знайшлі цябе па кніжках. А сустрэча так і не давялася. Супакойвалі і цешылі толькі лісты і здымкі.

У вялікай бядзе заўсёды сустракаюцца добрыя людзі. І табе пасля першага пакарання ў спякотнай Фергане працягнула руку, паставіла на ногі дахадзягу адважная і адданая Ганна Міхайлаўна. Калі пагналі ў Сібір другім наваратам на новыя пакуты, яна разам пайшла на голад, бяспраўе ў сібірскую сцюжу. Разам агоралі зямлянку, бо рукі твае не толькі здатныя да пяра, а да склюда і гэбля, долата і фуганка, усё з іх выходзіць, як лялька.

Я зайздрошчу, што ў цябе не было і няма ворагаў: з усімі ты памяркоўны і стрыманы, далікатны і добры і... бескампрамісны. Некалі я здзівіўся, што ты ўзяўся рэдагаваць «Векапомныя дні» Лынькова і ў сваім яшчэ нетрывалым становішчы адважыўся скараціць эпапею амаль на цэлы том. І за гэта Міхась Ціханавіч быў удзячны табе. Памятаю, як ты выціскаў ваду з таўшчэнных раманаў у рэдакцыі «Полымя».

Ведаючы з універсітэцкіх гадоў тваю дасведчанасць, працавітасць і абавязковасць, Броўка цябе перацягнуў у кантрольную рэдакцыю «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі». Ты далікатна па тры—чатыры разы вяртаў аўтарам іх артыкулы, а некаторыя перапісваў сам. З твае лёгкай рукі ў літаратурную мову ўвайшлі такія дакладныя і ёмістыя словы, як **радовішча, свідравіна** і яшчэ добры дзесятак вобразных «скрыганізмаў».

Ты ніколі не быў самаўпэўнены ў непагрэшнасці і бездакорнасці. Некалі ўсе новыя рэчы чытаў сябрам, прыслухоўваўся да іх думкі. І цяпер, калі ў чым сумняваешся, пытаешся пры сустрэчы або па тэлефоне. Не пачытаўшы табе новыя вершы, я ніколі іх не аддаю ў друк.

На тваю дабрату дабратою азываюцца людзі. Памятаеш, як адзін з тваіх юбілеяў прыпаў на паездку па Таджыкістане, як шчодра адорвалі цябе ружамі, халатамі і цюбецейкамі, гранатамі і вінаградам. Была шчырасць, было разуменне і ўзаемная павага.

Не забудуцца нашы шпацыры паміж юрмальскіх дзюнаў, гаворкі шэптам пра тое, аб чым галасна загаварылі толькі цяпер.

Ты — аўтар цэлай бібліятэчкі прозы, эсэістыкі, мемуараў, даследаванняў па культуры мовы. Твае чатыры «Кругі»—сціслы летапіс нашага часу ад бацькоўскага парога, праз маладнякоўскі ўзлёт, пра першыя радасці, бясконцыя трывогі і пакуты яшчэ недапісаных пякельных кругоў. Твае творы дайшлі да рускага, украінскага, эстонскага, нямецкага і французскага чытача. Хіба гэта не сапраўднае прызнанне таленту, хіба не радасць, што ты так патрэбен людзям.

Прабач, дарагі дружа, што гэтым падоўжаным словам адрываю цябе ад работы. Ты ж і цяпер, як той герой Паустоўскага, твой цёзка Жан Шамет з дробных пылінак збіраеш, куеш і шліфуеш залатую ружу натхнёнай прозы.

Няўжо і праўда, што ў цябе такі салідны юбілей? Выкраслі 20 непражытых каляндарных гадоў, выпрастайся, навастры пяро і шліфуй новыя пялёсткі залатой ружы на радасць людзям.

Віншую і жадаю ўсяго, што толькі можна пажадаць адзінаму лепшаму другу.

Моцна абдымаю. Бывай да наступнага твайго юбілею!

Твой

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**ДУМКА ЧЫТАЧА**

# АСЦЯРОЖНЕЙ З ГУЧНЫМІ СЛОВАМІ

**Некалькі разоў перачытала допіс Р. Родчанкі «Нацыянальная гераіня» («ЛіМ» за 14 верасня г.г.), але так і не зразумела, чаму аўтар лічыць, што Соф'я Алелькавіч (дарэчы, традыцыйна —Алелька, Алелькаўна) павінна быць «прылічана грамадскасцю да ліку адной з першых нацыянальных гераінь Беларусі». Праваслаўная царква, аднёсшы яе да беларускіх святых, мела рацыю. Але ці дастаткова нам таго, што княгіня Соф'я праз мужа «дабілася ад караля Рэчы Паспалітай граматы аб забароне ператварэння на Случчыне праваслаўных храмаў ва уніяцкія», каб лічыць яе гонарам усяе нацыі? А іншых довадаў на карысць гэтага аўтар, на жаль, не прыводзіць. Ці не мае?**

**Так, кола гістарычных асоб, пра якіх сёння апавядаюць нам, павінна быць пашырана. Але якім чынам? Я ўпэўнена, што праца ў архівах, вывучэнне гістарычных крыніц прынясуць плён — адкрыюць новыя імёны, дадуць магчымасць інакш зірнуць на ўжо вядомыя. Будуць сярод іх цудоўныя людзі, таленавітыя творцы, але ці ўсіх мы назавём «нацыянальнымі героямі і гераінямі»? Мо не трэба ставіць побач Францыска Скарыну і Альгерда Абуховіча, Ефрасінню Полацкую і слуцкую княгіню Соф'ю?**

**Асоб, якія з'яўляюцца гонарам нацыі, не можа быць шмат. (Закон колькасці і якасці дзейнічае і тут!) Мне здаецца, трэба больш удумліва ставіцца да ўжывання слоў «нацыянальны герой», «нацыянальная гераіня». Гэта не проста гучныя словы — за імі павінен быць глыбокі змест.**

**Л. БОЙКА,**
**навуковы супрацоўнік Салігорскага краязнаўчага музея.**

**Алесь РАЗАНАЎ**



# ПУНКЦІРЫ

□

Да каменя прытуліўся
жоўты кляновы ліст —
хочацца стаць каменным?!.

□

Сцежка па-над абрывам:
па ёй прывабна ісці,
на ёй кожны крок
змястоўны.

□

Дождж напаіў зямлю —
і вочы
расплюшчыліся ў зямлі
і ўбачылі неба.

□

Стары мураваны дом:
становіцца ён з гадамі
усё больш адметны,
усё больш сапраўдны
і ўсё больш жывы.

□

Заляцела ў пакой пчала —
зумкае,
б'ецца ў шыбу
і не знаходзіць выйсця.
Гэтак і мы?!.

□

Нехта назваў уголас
маё імя.
Хвіліна —
і зноў яно стала
тым, чым было заўсёды:
голасам цішыні.

□

Уранку я выйшаў з дому
і ўвесь дзень ішоў
у кірунку да сонца.
Якім супярэчлівым аказаўся
мой шлях!..

□

Снег сышоў —
і ўзышла
леташняя трава.
І што мне з вамі рабіць,
шматкі мінулага часу?!.

□

Калі ўсё наўколле
я ведаў напамяць,
тады ўзяў у павадыры
незнаёмага чалавека —
і сцежкі скрануліся і павялі
ў невядомасць.

□

Тэлефонная будка
у звечарэлым завулку.
Колькі людзей
пабыло ў ёй за дзень,
настолькі яна самотнейшай стала.

□

Акрыла наўколле шэрань:
кветкі паніклі,
камень зацвіў.

□

Над вёскай,
утуленай у зіму,
зазззяла першая зорка...
І засталася яна ў душы
такой — неадлучнай ад зоркі.

□

Нехта надзвычай знаёмы —
быццам світала ўваччу —
набліжаўся насустрач.
Ах, гэта проста
жаночая прыгажосць.

□

Спрачаюцца людзі ў чарзе,
а ззаду,
за ўсімі,
стаіць самотнае неба
і ўсім уступае сваю чаргу.

□

Дзівосныя рыбіны —
уначы
плаваем у бязмежжы,
а ўдзень
блукаем па сушы,
шукаючы ў ёй
рэшткі страчанага бязмежжа.

□

Сярод красамоўных кветак
знямелы сівы палын:
ён адзін
чуе і разумее,
што кажа лёс.

□

Справы,
якія здаваліся неадступнымі,
адступіліся...
Вось ты і вольны,—
сказала ўранку душа.
А ўвечары дадала:
і лішні.

□

Абапал гразкай дарогі
белыя лапікі,
белыя іншасветы:
сляды зімы.

□

Што ўбачыў
я ў горадзе іхнім за дзень —
распытваюць гаспадары,
быццам самі
яны ўжо не могуць убачыць
таго, што ў ім ёсць.

□

Сад атуляюць плотам.
А ён усё роўна
цвіце для ўсіх.

□

Усё змясцілася ў маім целе:
безліч вякоў,
безліч жыццяў,
а сам я —
не.

□

Непрыкметны прахожы —
о як ён стараецца стаць
яшчэ больш непрыкметным,
каб людзі не заўважалі,
што ён знямоганы
і стары.

□

У парасткаў-клёнікаў
такія ж сапраўдныя,
як і ў вялікіх кляноў,
лісты
і — такая ж сапраўдная восень.

□

Задумаліся нябёсы —
і людзі задумаліся
і ў сабе
адчулі нябёсы.

□

На адну шалю вагаў
паклаў я хлеб,
на другую — камень,
але калі яны ўраўнаважыліся,
не паверыў,
што хлеб важыць гэтулькі ж,
колькі камень.

□

Пеўні,
развязваныя матузамі:
іх прадаюць —
а яны спяваюць.

□

Уздоўж начнога перона
такія самотныя ліхтары,
быццам прыйшлі кагосьці праводзіць
і не могуць успомніць —
каго.

□

Думаў аб вечнасці.
Чорна-чырвоны матыль
прыляцеў,
сеў мне на руку,
стаў думаць разам са мною.

**Станіслаў ЛЕМ**

# ТЭРМІНУС

**У 1991 годзе ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» мае выйсці зборнік апавяданняў вядомага польскага пісьменніка-фантаста Станіслава Лема «Прыгоды Піркса» ў перакладзе на беларускую мову. Апавяданні гэтага аўтара вострасюжэтныя, з прыгодніцкімі элементамі. У іх закранаюцца праблемы, звязаныя з пранікненнем чалавека ў космас. Пілот Піркс зусім не з'яўляецца звышчалавекам з далёкай будучыні. Ён выступае прадстаўніком усёй чалавечай супольнасці, выразнікам гуманнай сацыяльнай сутнасці.**

**Прапануем чытачам «ЛіМа» ўрывак з апавядання С. Лема «Тэрмінус».**

**Перакладчык.**

Пекла пачалося а дзевятай. На ракетадроме ўсё было як звычайна — чарга на старт, кожныя шэсць хвілін мармытанне мегафонаў, сігнальныя ракеты, насля гул, рык, грукат рухавікоў на праверцы поўнай цягі. Пасля кожнага старту каскадамі ападаў высока ўзняты пыл. Ён яшчэ не паспяваў асесці, а з каманднай вежы паведамлялі, што для наступнага шлях свабодны—усе спяшаліся, кожны хацеў урваць яшчэ пару хвілін, як гэта бывае ў грузавым порце ў гадзіны пік: амаль кожны карабель ішоў на Марс, які роспачна прасіў машыны і зяленіва—людзі цэлыя месяцы не бачылі там агародніны, гідрапанічныя салярыі яшчэ толькі будаваліся.

Тымчасове да чарговых ракет цягнуліся краны, бетонамяшалкі, элементы канструкцый, кіпы шклаваты, цыстэрны з цэментам, нафтаю, лякарствы — па сігналу, усе людзі, хаваліся, дзе хто мог, у супрацьпрамянёвых канавах, у браніраваных цягачах, і не паспяваў бетон як след астыць, калі зноў вярталіся да працы. А дзесятай, тысячы штук. Калі ласка—ён усё адно стартуе ў вызначаны час. Кампанія будзе аштрафавана? Калі ласка, штрафуйце.

Піркс пацеў. Усе нібыта ўвайшлі ў змову, каб павялічыць і без таго вялікі хаос: электрык бэсціў механіка, які не праверыў аварыйную сістэму, другі пілот выбег некуды на пяць хвілін, і няма яго на караблі, развітваецца з нарачонай, фельчар наогул знік, сорак браніраваных мамантаў пад'ехалі да карабля, абкружылі яго, і людзі ў чорных камбінезонах бягом цягаюць мяшкі з пяском, семафор на каманднай вежы толькі і ведае, што паднімаць іх, прыйшла нейкая дзіўная радыёграма, замест пілота яе прыняў электрык, забыўся запісаць у радыёжурнал, зрэшты гэта не яго справа, у Піркса аж закружылася галава, ён толькі прытвараўся, нібыта ведае, што робіцца—за дваццаць хвілін да старту ён прыняў драматычнае рашэнне: загадаў перапампаваць усю ваду з насавых рэзервуараў на карму. Няхай робіцца, як хоча—найгоршае, што вада закіпіць, але затое лепшай будзе ўстойлівасць.

калі сонца, усё ў дыме, чырвонае, нібыта апухлае, узнялося над гарызонтам, ахоўныя бетонныя сценкі паміж стартавымі пляцоўкамі былі ўжо падзёўбаныя, задымленыя, раз'едзеныя агнём, глыбокія трэшчыны паспешліва залатвалі хутка застываючым цэментам, які бруднымі фантанамі прабіваўся са шлангаў, тымчасове антырадыяцыйныя каманды ў вялікагаловых скафандрах выскаквалі з транспарцёраў, каб струменямі сціснутага пяску ачысціць радыяцыйнае забруджанне, паўсюль з выццём сірэн кідаліся размаляваныя чырвона-чорнымі шашачкамі ўсюдыходы кантролю, на вежы каманднага пункта хтосьці драў горла ў мегафон, на вяршынях вострых шпіляў круціліся вялізныя бумерангі радараў—адным словам, усё было так, як і мае быць. Піркс разрываўся на кавалкі. Трэба было яшчэ прыняць на палубу прывезенае ў апошні момант свежае мяса, загрузіць пітную ваду, праверыць тэмпературу халадзільнікаў (мінімальная складала мінус пяць, кантралёр СПТ ківаў галавой, але ў рэшце рэшт злітаваўся і падпісаў), кампрэсары, якія толькі што з капітальнага рамонту, пад час першага ж кантролю пацяклі, голас Піркса паступова станавіўся падобным на іерыхонскую трубу, раптам высветлілася, што вада размешчана дрэнна—нейкі крэтын закруціў вентылі, перш чым запоўніліся ніжнія зборнікі—Піркс падпісваў паперы, якія падсоўвалі яму адразу па пяць, не ведаючы нават, што ён падпісвае. На гадзінніку было адзінаццаць—мелі гадзіну да старту, бомба.

Камандны пункт не выдае дазволу на ўзлёт, бо старая сістэма дзюзаў мае надта небяспечны радыеактыўны асадак—карабель павінен мець дапаможны боравадародны прывад, як і у «Гіганта»,—той грузавой ракеты, якая стартавала а шостай,—Піркс, ужо ахрыплы ад крыку, раптам супакоіўся. Хіба дыспетчар руху думае сабе пра тое, што гаворыць? Хіба ён толькі зараз заўважыў «Блакітную зорку»? Тут могуць быць вялікія—вельмі вялікія непрыемнасці. Пра што гаворка? Дадатковая засцярога? Ад чаго? Мяшкі з пяском. Колькі? Дробязь—тры

У адзінаццаць сорак—праверка рухавікоў. З гэтай хвіліны вяртання назад ужо няма. Аказалася, што не ўсе людзі нічога не вартыя—асабліва спадабаўся Пірксу Боман—яго не было ні відно, ні чутно, а ўсё ішло як мае быць: прадзьмуханне дзюзаў, малая цяга, поўная—за шэсць хвілін да ўзлёту, калі капітанат выкінуў сігнал «На старт», яны былі гатовы. Усе ляжалі ў крэслах, калі з'явіўся фельчар: другі пілот, мулат, вярнуўся ад нарачонай вельмі маркотны, дынамік хрыпеў, мармытаў, крычаў, нарэшце стрэлка аўтамата стала на нуль, шлях быў вольны. Старт.

Піркс, вядома, ведаў, што 19 000 тон—гэта не патрульная шалупінка, дзе месца хапае толькі на тое, каб шырока ўсміхнуцца, карабель не блыха, сам не падскочыць, трэба ўключаць цягу—але нічога падобнага ён не чакаў. На цыферблаце ўжо палова магутнасці, увесь корпус аж трымціць ад палубы да асновы, нібыта хоча разляцецца на кавалкі, а індыкатар нагрузкі паказвае, што яны яшчэ не адарваліся ад бетону. У Піркса мільганула думка, што мо «Зорка» зачапілася за нешта — верагодна, што гэткія рэчы здараюцца адзін раз у сто гадоў—але ў гэты момант стрэлка зрушылася. Вогненны слуп падняў «Зорку», яна дрыжала, стрэлка гравіметра танцавала па шкале, як звар'яцелая; Піркс уздыхнуў і асунуўся ў крэсле, расслабіўся—з гэтага моманту, каб ён нават і хацеў, ужо нічога не мог бы зрабіць. Ракета ішла ўгару. Адразу ж яны атрымалі па радыё папярэджанне за старт на поўнай магутнасці—бо гэта павялічвала радыеактыўнае забруджанне. Кампанія будзе дадаткова аштрафавана. Кампанія? Вельмі добра, хай плаціць, каб яе халера ўзяла! Піркс толькі скрывіўся, ён нават і не спрабаваў спрачацца з камандным пунктам, даказваць, што стартаваў ён не на поўнай цязе. Ці мо яму адразу ж сесці, выклікаць камісію і патрабаваць пратакольнага запісу паказанняў уранографа?

Зрэшты, зараз Піркса турбавала зусім іншае: праходжанне праз атмасферу. У сваім жыцці ён яшчэ не сядзеў на караблі, які гэтак трося б

Гэтак маглі б адчуваць сябе людзі ў самай макаўцы сярэднявечнага тарана, які прабівае мур. Усё навокал ажно калацілася, яны так лcraн... 

Гэтак маглі б адчуваць сябе людзі ў самай макаўцы сярэднявечнага тарана, які прабівае мур. Усё навокал ажно калацілася, яны так лыталі ў пасах, што душа з іх выскоквала, гравіметр ніяк не мог супакоіцца, паказваў то 3,8, то 4,9, бессаромна падскокваў да пяцёркі і, як спалоханы, адразу ж падаў на тройку. Нібыта дзюзы ў іх былі забітыя клёцкамі! Яны ішлі ўжо на поўнай цязе, і Піркс абедзвюма рукамі прыціскаў да галавы шлем, бо інакш не было б чуваць голасу пілота ў шлемафоне—так раўла «Зорка»! Гэта не быў пераможны балістычны грукат. Яе барацьба з зямным прыцягненнем нагадвала поўную адчаю агонію. Добрыя дзве хвіліны здавалася, што яны не стартуюць з Зямлі, а вісяць нерухома, усёй сілай аддачы адштурхоўваючы ад сябе планету,—такімі адчувальнымі былі пакутлівыя намаганні «Зоркі»! Усё нібыта расплылося ад вібрацыі, і Пірксу здалося, што ён чуе трэск лопнутых швоў, але гэта было глупства—у такім пекле не пачуеш нават голасу труб, якія заклікаюць на страшны суд.

Тэмпература абалонкі носа—о, гэта быў адзіны індыкатар, які не вагаўся, не адступаў, не скакаў і не затрымліваўся, а спакойна лез угару, нібыта перад ім на шкале быў яшчэ цэлы метр, а не самыя апошнія, чырвоныя лічбы: 2 500, 2 800—заставалася ўсяго пару рысак, калі Піркс зірнуў туды. А яны не мелі нават арбітальнай хуткасці, усё, чаго дабіліся,—гэта 6,6 кіламетра ў секунду на чатырнаццатай хвіліне палёту! Раптам у яго з'явілася шалёная думка, нібыта ў кашмары, які часам бывае ў пілотаў, што «Зорка» наогул не адарвалася ад Зямлі, а мігатлівыя воблакі на экране, гэта проста пара, якая выбіваецца з лопнутых труб ахаладжвання! Аднак гэта была няпраўда: яны ляцелі. Фельчар ляжаў белы, як сцяна, і пакутаваў. Піркс падумаў, што ад медыцынскай дапамогі, якую ён павінен аказваць ім, толку будзе мала. Інжынеры трымаліся добра, а Боман нават не спацеў—ляжаў сабе з заплюшчанымі вачыма, сівы, спакойны, шчуплы, як хлапчук. З-пад крэслаў, з амартызатараў пісала на падлогу гідраўлічная вадкасць, аж было смешна,—поршні дайшлі амаль да ўпору. Піркса цікавіла толькі, што будзе, калі яны і сапраўды дойдуць.

Ён прывык зусім да іншага, сучаснага размяшчэння цыферблатаў, і таму позірк яго ўвесь час трапляў не туды, калі ён хацеў праверыць цягу, ахаладжванне, хуткасць, стан абалонкі, ну і перш за ўсё, ці выйшлі яны на сінергічную.

Пілот, з якім яны перагукваліся па інтэрканалу, нібыта крыху разгубіўся—то выходзіў з курсу, то сыходзіў з яго, ваганні, вядома, невялікія, дробныя, але пад час прабівання атмасферы дастаткова, каб адзін борт пачаў награвацца больш, чым другі, тады ў абшыўцы ўзнікае вялізнае тэрмічнае напружанне, і вынікі могуць быць страшнымі. Піркс толькі тым сябе цешыў, што, калі ўжо гэтая калматая шкарлупіна вытрымала гэтульні стартаў, то вытрымае і гэта.

Стрэлка тэрмапары сапраўды дайшла да канца шкалы: 3 500 градусаў, гэтульні было ў іх звонку, і, калі б гэта патрывала яшчэ дзесяць хвілін, абалонка пачала б распаўзацца—карбіды таксама не вечныя. Якая таўшчыня абшыўкі? Ніякіх паказчыкаў на гэты конт не было, ва ўсякім разе—яна значна абгарэла. Пірксу станавілася горача, але толькі ад хваляваання, бо ўнутраны тэрмометр, як і пад час старту, паказваў дваццаць сем. Яны былі ўжо на шасцідзесятым кіламетры, атмасфера практычна засталася ўнізе, хуткасць — 7,4 кіламетра ў секунду. Ішлі крыху раўней, але ўсё яшчэ амаль на трайным паскарэнні. Гэтая «Зорка» рухалася як валавяны стаўбун. Ніякімі сродкамі яе нельга было разагнаць як след—нават у пустэчы. Чаму? Піркс і сам не ведаў.

Праз паўгадзіны яны ўжо ляжалі на курсе «Арбітра»—толькі пасля гэтага, апошняга з пеленгуючых спадарожнікаў яны мелі выйсці на трасу Зямля—Марс. Усе выпрасталіся ў крэслах, Боман масіраваў сабе твар, Піркс адчуваў, што і ў яго таксама набрынялі губы, асабліва ніжняя—у іншых вочы наліліся крывёю, апухлі, іх даймаў сухі кашаль, хрыпы, але гэта былі нармальныя з'явы, яны звычайна знікаюць праз нейкую гадзіну.

Рэактар працаваў так сабе, праўда, цяга не паменшала, але і не павялічылася, у пустэчы яна, уласна, павінна была б павялічыцца, але гэтага чамусьці не адбывалася. Нават законы фізікі, здавалася, для «Зоркі» не існавалі. Паскарэнне было амаль нармальнае, зямное, і хуткасць 11 кіламетраў у секунду. Іх яшчэ чакаў разгон «Зоркі» да нармальнай крэйсерскай хуткасці, інакш давялося б цягнуцца да Марса цэлыя месяцы; пакуль што яны ішлі проста на «Арбітр».

Піркс, як і кожны навігатар, чакаў ад «Арбітра» толькі адных непрыемнасцяў — альбо заўважаць, што ў карабля занадта доўгі, не дазволены інструкцыяй выхлапны агонь, альбо што іанізацыйныя разрады ў дзюзах перашкаджаюць радыёпрыёму, альбо запатрабуюць, каб Піркс перачакаў, пакуль прапусцяць нейкі больш важны карабель. Але на гэты раз нічога падобнага не адбылося. «Арбітр» прапусціў іх адразу і яшчэ паслаў наўздагон радыёграму: «Глыбокага вакууму», Піркс адказаў і на тым скончыўся абмен касмічнымі кампліментамі.

Яны выйшлі непасрэдна на курс, Піркс загадаў павялічыць цягу, паскарэнне таксама павялічылася, ужо можна было рухацца, распрастаць косці, устаць — радыётэхнік, які быў адначасова і кухарам, пайшоў у камбуз. Усім хацелася есці, асабліва Пірксу, які з самага ранку нічога не еў, а пад час старту спацеў, як мыш; у рубцы толькі зараз пачала павышацца тэмпература, бо гарачыня распаленай абшыўкі перадалася ўнутр са спазненнем. Пахла вадкім алеем, які выцек з гідраўлікі і абкружыў крэслы лужынамі.

Боман з'ехаў да рэактара, каб праверыць, ці няма. нейтроннай цечы, Піркс тым часам размаўляў з электрыкам і назіраў за зоркамі. Аказалася, што ў іх ёсць агульныя знаёмыя. У Піркса ўпершыню з таго моманту, як узышоў на палубу, крыху адлягло ад сэрца: якая ёсць гэтая «Зорка», такая ўжо ёсць, а 19 000 тон — гэта не смешачкі. Зрэшты, і весці гэткі труп значна цяжэй, чым звычайную грузавую ракету, значыць, і гонар большы, і вопыт набіраецца.

Праз паўтара мільёна кіламетраў за «Арбітрам» яны перажылі першы ўдар: не давялося паабедаць. Радыётэхнік падвёў страшэнна. Найбольш гневаўся фельчар — аказалася, што ў яго хворы страўнік, перад самым стартам ён купіў некалькі курэй і адну аддаў радыётэхніку, а зараз у бульёне поўна пёраў. Для іншых меліся быць біфштэксы — з імі можна было прававаджаца рэштку ўсяго жыцця.

— Загартаваныя яны, ці што? — прамовіў другі пілот і так дзеўбануў відэльцам у свой біфштэкс, што ён выскачыў з талеркі.

Радыётэхнік быў глухі да кпінаў. Ён параіў фельчару працадзіць булён. Піркс адчуваў, што павінен выступіць у якасці пасрэдніка, але не ведаў, як гэта зрабіць. Яму хацелася смяяцца.

Паабедаўшы кансервамі, Піркс вярнуўся ў рубку. Загадаўшы пілоту выканаць кантрольнае фіксаванне зорак і запісаўшы ў карабельны журнал паказанні гравіметра, зірнуў на цыферблат рэактара і аж свіснуў. Гэта быў не рэактар, а вулкан. Кажух нагрэўся да васьмісот градусаў — і гэта праз чатыры гадзіны палёту. Ахаладжальная маса цыркулявала пад максімальным ціскам дваццаць атмасфер. Піркс задумаўся. Самае горшае ўжо нібыта мінулася. Пасадка на Марсе не праблема — прыцягненне напалову меншае, атмасфера разрэджаная. Якнебудзь сядзем. А вось з рэактарам трэба нешта рабіць. Ён падышоў да калькулятара і падлічыў, колькі яшчэ трэба ісці на той жа цязе, каб набраць крэйсерскую хуткасць. Пры хуткасці меншай за 80 кіламетраў у секунду атрымаецца вялікае спазненне.

— Яшчэ семдзесят восем гадзін,— адказаў калькулятар.

За семдзесят восем такіх гадзін рэактар узарвецца. Разляціцца як яйка. У гэтым Піркс не сумняваўся. Ён вырашыў, што трэба набіраць хуткасць рыўкамі, пакрысе. Праўда, гэта трохі ўскладніць курс, да таго ж часам давядзецца ляцець без цягі, значыць, без гравітацыі, а гэта не надта прыемна. Іншага выйсця, аднак, не было. Ён загадаў пілоту не зводзіць вачэй з астракомпаса, а сам з'ехаў на ліфце ўніз, да рэактара. Ідучы па цемнаватым калідоры праз грузавыя трумы, ён пачуў прыглушаны грукат — нібыта па жалезных плітах рухаўся цэлы атрад. Піркс прыспешыў крок. Раптам у яго пад нагамі чорнай стралой шмыгнуў кот, і адразу ж недзе блізка грукнулі дзверы. Калі ён дабраўся да асветленага брудными лямпамі галоўнага калідора, усё сціхла. Перад ім была пустка пачарнелых сцен, і толькі нейкая лямпачка ў глыбіні яшчэ трымцела ад нядаўняга зрушэння.

— Тэрмінус! — крыкнуў Піркс наўздагад.

Адказала толькі рэха. Ён павярнуўся і па бартавым пераходзе дабраўся да тамбура рэактара. Бомана, які спусціўся сюды раней, ужо не было. Высушанае, як пясок, паветра шчыпала вочы. У лейках вентылятараў бушаваў гарачы вецер, шумела і гуло, як у паравой кацельні. Рэактар, як і кожны рэактар, працаваў бязгучна — вылі агрэгаты ахаладжвання, якія працавалі з поўнай нагрузкай. Кіламетры ўмураваных у бетон труб, па якіх бегла ледзяная вадкасць, нараджалі дзіўныя, падобныя на скаргі, енкі. Стрэлкі помпаў за лінзамі акенцаў дружна схіліліся направа. Сярод цыферблатаў свяціўся, як месяц, самы галоўны — той, што адзначаў гушчыню патоку нейтронаў. Стрэлка амаль датыкалася да чырвонай рысы — малюнак, які любога інспектара СПТ мог давесці да інфаркту.

Шурпатая ад цэментовых латак, падобная на скалу бетонная сцяна пылала мёртвай гарачынёй, пліты намоста крыху вібрыравалі, перадаючы ўсяму целу непрыемнае трымценне, святло ад лямпаў тлуста расплывалася ў мігатлівых дысках вентылятараў; адна з белых сігнальных лямпаў заміргала, пасля патухла і на яе месцы ўспыхнуў чырвоны сігнал. Піркс пайшоў пад насціл, дзе знаходзіліся выключальнікі, але Боман апярэдзіў яго: гадзіннікавы аўтамат быў пастаўлены на разрыў ланцуговай рэакцыі праз чатыры гадзіны. Піркс не чапаў яго, толькі праверыў лічыльнікі Гейгера. Яны спакойна цікалі. Індыкатар паказваў невялікую цечу — 0,3 рэнтгена ў гадзіну. Піркс зазірнуў яшчэ ў цёмны кут камеры. Там было пуста.

— Тэрмінус! — крыкнуў ён. — Гэй, Тэрмінус!

Адказу не было. У клетках белымі плямкамі скакалі неспакойныя мышы — відаць, яны дрэнна адчувалі сябе ў гэтай сапраўды трапічнай гарачыні. Піркс вярнуўся наверх і замкнуў за сабой дзверы. У халодным калідоры яго пранізалі дрыжыкі — кашуля была мокрая ад поту. Сам не ведаючы навошта, Піркс ішоў па цёмных, звужаных у канцы калідорах кармы, пакуль шлях не загарадзіла глухая сцяна. Ён дакрануўся да яе далонню. Мур быў цёплы. Піркс уздыхнуў, пайшоў назад, падняўся на ліфце на чацвёртую палубу ў навігатарскую і пачаў вычэрчваць курс. Калі ён з гэтым справіўся, гадзіннік паказваў дзевяць. Піркс здзівіўся: бо ён і не заўважыў, як праляцеў час. Патушыў святло і выйшаў.

Калі ўваходзіў у ліфт, адчуў, што падлога мякка ўцякае з-пад ног. Аўтамат выключыў рэактар у адпаведнасці з праграмай. У слаба асветленым начнымі лямпамі калідоры сярэдняй часткі карабля мерна шумелі вентылятары. Іскры далёкіх лямпачак трымцелі ў скрыжаваннях патокаў паветра. Піркс лёгка адштурхнуўся ад дзвярэй ліфта і паплыў наперад. У бакавой секцыі калідора было зусім цямней. У блакітнаватым паўзмроку ён плыў міма кают, у якія да гэтага часу так і не сабраўся зазірнуць. Выхады рэзервовых люкаў, адзначаныя рубінавымі лямпачкамі, адчынялі свае чорныя лейкі. Гэты плаўны, як у сне, палёт у бязважкасці пад выгнутымі скляпеннямі, распластаўшыся над сваім уласным вялізным ценем, усё працягваўся, аж пакуль Піркс не заплыў праз прыадчыненыя дзверы ў вялізную, неабжытую кают-кампанію. Пад ім, у паласе святла, доўгі стол абступалі крэслы. Піркс вісеў над сталом як вадалаз, які даследуе трумы затанулага карабля. У слаба бліскаючым шкле шафы сцяны затанцавалі адлюстраванні лямпаў, рассыпаліся блакітнымі агеньчыкамі і патухлі. За кают-кампаніяй пачыналася іншае, яшчэ больш цёмнае памяшканне. Тут нават яго, прывыклыя да цемры вочы, не бачылі. Ён вобмацкам, кончыкамі пальцаў дакрануўся да эластычнай паверхні, не ведаючы, столь гэта ці падлога. Крыху адштурхнуўся, павярнуўся, як плывец, і бясшумна рушыў далей. У аксамітнай цемры мільгалі, бялеючы ўласным святлом, даўгаватыя, выстаўленыя шэрэнгамі, прадметы. Ён адчуў холад гладкай паверхні — гэта былі рукамыйнікі. Бліжэйшы быў увесь у чорных плямах. Кроў?

Піркс асцярожна выцягнуў руку. Гэта быў тавот.

Яшчэ адны дзверы. Адчыніў іх, вісючы наўскасяк у паветры, і перад яго тварам у шэрым паўзмроку прапаплылі ў прывідным карагодзе нейкія паперы, кнігі і, слаба пашамацеўшы, зніклі. Ён зноў адштурхнуўся, на гэты раз нагамі, і праз адчыненыя дзверы выплыў у калідор, ахінуты клубамі пылу, які не ападаў і цягнуўся за ім рудым вэлюмам.

Шнурок начных агнёў свяціўся не міргаючы. Нібыта блакітная вада заліла палубы. Ён падплыў да вісячага пад столлю троса; петлі, калі выпускаў іх з рук, пачыналі паволі кружыцца, нібыта разбуджаныя дотыкам.

Піркс падняў галаву. Дзесьці недалёка чуўся стук. Нехта малатком біў па метале. Піркс паплыў на гэты гук, які то нарастаў, то сціхаў, і нарэшце ўбачыў у падлозе ржавыя рэйкі. Калісьці па іх рухаліся ў галоўныя трумы грузавыя платформы. Зараз ён ляцеў хутка, адчуваючы, як паветра абдзьмухвае твар. Гук чуўся ўсё мацней. Раптам Піркс прыкмеціў пад столлю трубу, якая выходзіла з папярочнага калідора. Стары дзюймовы канал трубаправода. Піркс дакрануўся да яго. Труба задрыжала. Удары спалучаліся ў групы, па два, па тры. Раптам ён зразумеў. Гэта была марзянка.

— Увага...

Тры ўдары.

— Увага...

— Увага...

Тры ўдары.

— Я-з-а-п-е-р-а-г-а-р-о-д-к-а-й, — бубніла труба.

Піркс складаў літары, адну за адной.

— Л-ё-д-у-с-ю-д-ы...

— Лёд? — не зразумеў спачатку Піркс. — Чаму лёд? Які лёд? Што гэта азначае? Хто...

— К-а-н-т-э-й-н-е-р-т-р-э-с-н-у-ў, — азвалася труба.

Піркс трымаў на ёй далонь. Хто гэта перадае? Адкуль? Ён спрабаваў уявіць, адкуль ідзе трубаправод. Гэта быў аварыйны канал, ён ішоў з кармы, маючы адгалінаванні на ўсіх гарызонтах. Нехта вывучае азбуку Морзе? Што за ідэя? Пілот?

— П-р-а-т-а-д-г-у-к-н-і-с-я-п-р-а-т...

Паўза.

Пірксу заняло дыханне. Гэтае імя ўразіла яго як удар. Нейкае імгненне ён шырока расплюшчанымі вачыма ўзіраўся ў трубу, пасля кінуўся наперад. «Гэта той, другі пілот», — падумаў ён. Дабраўся да павароту, адштурхнуўся і, набіраючы хуткасць, паляцеў у рубку, а труба над ім звінела:

— В-а-й-н-г-э-т-а-с-і-м-о-н...

Гук аддаляўся. Піркс страціў трубу з поля зроку; ён павярнуў убок — труба ішла ў папярочны калідор. Піркс імкліва адштурхнуўся ад трубы і праз воблака пылу ўзіраўся ў сагнуты кавалак трубы з укручанай іржавай заглушкай. Труба канчалася тут. Не ішла ў рубку? Значыць — значыць, гэта з кармы? Але — там — нікога няма...

— П-р-а-т-у-ш-о-с-т-ы-м-а-п-о-ш-н-і-м, — звінела труба.

Піркс вісеў пад столлю, зачапіўшыся сагнутымі пальцамі за трубу, нібыта кажан, кроў стукала ў скроні. Пасля кароткай паўзы зноў пачуліся ўдары:

— Б-а-л-о-н-м-а-е-т-р-ы-ц-ц-а-ц-ь-д-а-н-у-л-я...

Тры ўдары.

— М-о-м-с-е-н-а-д-г-у-к-н-і-с-я-м-о-м-с-е-н...

Паўза.

Піркс агледзеўся. Было зусім ціха, толькі засланка вентылятара ляпала за паваротам пад парывамі ветру, і выдзьмуханае адтуль смецце лена кружылася, цягнучыся ўгару, пакідала на столі цень над лямпамі, нібыта там цэлымі гуртамі насіліся вялікія няўклюдныя начныя матылі. Раптам пасыпаліся імклівыя ўдары:

— П-р-а-т-п-р-а-т-п-р-а-т-м-о-м-с-е-н-н-е-а-д-к-а-з-в-а-е-ў-с-ё-м-ы-м-ё-с-ц-ь-к-і-с-л-а-р-о-д-ц-і-м-о-ж-а-ш-т-ы-п-р-ы-й-с-ц-і-п-р-ы-ё-м...

Паўза. Святло лямпаў было ўсё гэткае ж, смецце і пыл паволі кружыліся. Піркс хацеў адпусціць трубу, але не мог. Чакаў. Яна азвалася:

— С-і-м-о-н-д-а-м-о-м-с-е-н-а-п-р-а-т-у-ш-о-с-т-ы-м-з-а-п-е-р-а-г-а-р-о-д-к-а-й-з-а-ш-о-н-і-м-б-а-л-о-н-а-м-м-о-м-с-е-н-а-д-г-у-к-н-і-с-я-м-о-м-с-е-н...

Апошні цяжкі ўдар. Труба доўга вібрыравала. Паўза. Пасля некалькі незразумелых удараў і хуткая серыя:

— С-л-а-б-а-д-а-х-о-д-з-і-ц-ь-с-л-а-б-а-д-а-х-о-д-з-і-ц-ь-...

Ціша.

— П-р-а-т-а-д-г-у-к-н-і-с-я-п-р-а-т-п-р-ы-ё-м...

Труба здрыганулася. Нібыта зусім здалёку чуліся рэзкія ўдары. Тры кропкі. Тры працяжнікі. Тры кропкі. SOS. Кожны наступны ўдар быў усё слабейшы. Яшчэ два працяжнікі. І яшчэ адзін. І працяглы, заміраючы гук, нібыта хтосьці скроб або драпаў па трубе. Гэта можна было пачуць толькі ў абсалютнай цішыні.

Піркс адштурхнуўся і галавой уперад паляцеў уздоўж трубы; ён паварочваў, калі збочвала яна, уздымаўся, апускаўся, рассякаючы галавой паветра. Адчыненая шахта. Нахільны спуск. Сцены, што сыходзяцца ўдалечыні. Адны, другія, трэція вароты грузавых секцый. Сталася цямней. Ён вёў пальцамі па трубе, каб не страціць яе, чорныя, спечаны пыл абдзіраў далоні; ён мінуў палубы і знаходзіўся ўжо ў памяшканні без падлогі і столі, якое па-

(Працяг на стар. 10—11).

# Годнасць мастацкай думкі

**Нататкі з XI Усесаюзнага фестывалю маладзёжных праграм**

ТЭЛЕФОННАЕ права, права цэнтралізаванага размеркавання тэхнікі, «тэлетайпнае» права праграм (прысвечаных так званым міжнацыянальным зносінам) «Садружнасць», «Саюз» на ЦТ і УР існуюць дагэтуль. Адгрукаў у тэлетайпным пакоі (што ў тэлевежы па вуліцы Макаёнка) тэлекс: «Предлагаем XI Всесоюзный телевизионный фестиваль молодежных программ провести в Минске...» — ёсць, будзе, выканаем!

І выканалі...

Верасень — з 17-га па 22-е — гукнуў водгаласам добрага старога часу, калі прынцып «дэмакратычнага цэнтралізму» працяў усе «закуткі» саюзнай сістэмы аўдыёвізуальных СМК (сродкаў масавай камунікацыі). Вераснем чулыя рукі, галовы ды душы работнікаў Дзяржтэлерадыё БССР (хацелася б сказаць «беларускія душы», але душа — гэта мова, а беларуская мова, — агу! дзе ты ў высокіх, сярэдніх ды нізкіх кабінетах, студыях ды калідорах тэлегмаху па вуліцы Макаёнка?) прынялі цяжар прапановы ЦТ правесці фестываль. Увайшлі, так бы мовіць, у шчаслівую «раку» дружнай інтэрнацыянальнай, адзінай маладзёжнай сям'і, дзе побач са «старэйшым братам» заўсёдна малодшыя пятнаццаць сясцёр-братоў рэспублік.

Гэтым разам сям'я паменела. У конкурсным праглядзе ўдзельнічалі праграмы толькі шасцёх рэспублік: РСФСР, Украіны, Беларусі, Латвіі, Казахстана, Узбекістана. Праўда, як ніколі на папярэдніх фестывалях, шырокімі прасторамі ўразіла Расія: Мурманск, Хабараўск, Чэлябінск, Кіраў, Свярдлоўск, Іркуцк, Сахалін, Растоў, Краснадар, Цюмень, Алтай, Валгаград, Камчатка, Перм, Ленінград, Омск, Калінінград ды аўтаномныя Якуція, Мардовія, Чачэна-Інгушэція, Калмыкія, Башкірыя, Татарыя. А як нацыянальна-каларыстычны эпізод — «Сонца над горадам», прыпавесць на іўрыце Омскай студыі, пазаконкурсная работа. Зацікавіў не столькі іўрыт як адзін з індыкатараў абуджэння самасвядомасці «нацыянальных меншасцяў», колькі геаграфія: Омск — іўрыт.

Гэта, па сутнасці, быў расійскі фестываль з запрошанымі гасцямі, які чамусьці вырашылі правесці ў Мінску: прапанова і грошы «зверху»—згода і выкананне «знізу». Ды, зрэшты, ці фестываль? Ад пачатку і да канца гэта быў прафесійны агляд тэлевізійнай прадукцыі, якую падрыхтавалі маладыя работнікі тэлецэха, з элементамі конкурсу ды семінара (дзве дыскусіі). І гэта выснова, думаю, ніколькі не памяншае значнасці падзеі, якая вызначыла тэндэнцыі не, не маладзёжнага тэлевяшчання, а пэўныя ўзроўні грамадскага жыцця, сферы сацыяльных завалаў, крызісаў, боляў ды амаль дэбільных недарэчнасцей, пасля чаго хочацца ўсклікнуць пагаварухінску: «Так жыць нельга!»

Ці ёсць, ці існуе менавіта маладзёжнае вяшчанне ў рэспубліцы і ў краіне? Ці сцвердзіў гэта XI Усесаюзны? Семантыка адзінага слова-паняцця ў фестывальнай назве — «тэлевізійныя» сапраўды адпавядала зместу. Амаль без выключэння ўсе работы былі менавіта тэлевізійнымі, г. зн. відовішчнымі, з выкарыстаннем спецэфектаў: усведамленнем факта тэлебачання як віду электроннага мастацтва (але і тут ёсць заўвагі, пра якія пазней).

Што ж да паняцця «праграмы», дык зноў па прафесійнай некрытычнай інерцыі адбылася тэрміналагічная блытаніна ў дачыненні да слова-паняцця «праграма». «Праграма — ад грэч. аб'ява, наказ», потым «план дзеяння, работ, палажэнні ды мэты партыі, арганізацый, дзеячаў; кароткі змест вучэбнага прадмета» (БелСЭ, БСЭ). Але працэс аўдыёвізуальнай камунікацыі падштурхнуў да пераўтварэння, удакладнення паняцця «праграма», і ўжо мы звычайны інфармацыйны выпуск (у строгім сэнсе калейдаскоп навін) завём праграмай. Асобныя перадачы пашырыліся, набыўшы рысы праграмы ў праграме, ілюстрацыяй чаго ёсць нашы «Крок», былы «МТЦ», «Я і мы», былая «Ад «А» да «Я», на ЦТ — «Взгляд», «Музыка в эфире», «Слово», «Киносерпантин» і інш.

Вось такіх менавіта праграм на фестывалі было ўсяго пяць: «Адкуль нашы карані», Львоў (некалькі нарысаў ды рэпартажаў пра народныя традыцыі, рамёствы), «Аматары з Валошына», Растоў (пра розныя заняткі ў вольны час на сяле), «Як я бавіў лета», Днепрапятроўск (пра жыццё падлеткаў), «Аскепкі», Ленінград (некалькі разнажанравых сюжэтаў пра жаночую прыгажосць) ды «Жыццё-быццё», Омск (дасціпныя сюжэты пра забаронены раней на экране секс).

Пра што ж ды як былі зроблены-створаны трыццаць шэсць фестывальных стужак ды дзесяць пазафестывальных?

«ДЫЯГНАЗ» Украінскага ТБ, аўтар В. Мухіна, рэжысёр Ю. Галкін, III прыз:

*...Летам 1986-га* ўкраінскія тэлежурналісты пабывалі-паздымалі страшную Чарнобыльскую зону, але, вядома, у эфір матэрыял пайшоў праз... гады. Захварэлі людзі, адзін памёр, схапіўшы нябачнай радыяцыі. Праграма — пра журналістаўкалегаў, якія наблізілі асэнсаванне той трагедыі.

«ПАЛІТРА» Беларускага ТБ, аўтары-рэжысёры Г. Хмыз, А. Шкаева (мастакі БТ), А. Дрозд (гукарэжысёр), III прыз:

...Мы падступаем да вяршынь выразных магчымасцей электроннага мастацтва. Нечаканыя графічныя ракурсы, спецэфекты — з рухам адлюстравання на экране, з колерам —у спалучэнні з амаль сюррэалістычным «удзелам» жывой чалавечай асобы і музыкай — імправізацыя на тэму «мастак і тэлебачанне».

«ПЕРАМОЖЦЫ», Якуцкае ТБ, аўтар С. Сакалова, рэжысёр Л. Кастрыцкая, III прыз:

...Спроба праз аблічы і лёсы ўдзельнікаў - пераможцаў Вялікай Айчыннай вайны паразважаць пра народ-пераможцу. На парадах, на ўрачыстай трыбуне ветэраны-аптымісты з медалёвым бляскам; ля трыбуны — ідэалагічныя клішэ ў размовах. А ў жыцці тыя ветэраны народа-пераможцы — жабракі. Як, напрыклад, бабуля, што жыве ці не ў пячоры, прыслухоўваецца да плюскату вады ў калідоры: «Во, пошта ідзе» — чакае... пазбаўлення ад рабства?..

«ЖЫЦЦЁ-БЫЦЦЁ», Омскае ТБ, аўтар Г. Суліменка, рэжысёр І. Пагадаеў, II прыз:

...Ці не самая дасціпная перадача фестывалю пра... секс і эротыку. І жартам і ўсур'ёз. Праз развагі (і паказы!) на эратычныя тэмы аўтары, зразумела, закранаюць аспекты нашай палітычна-ідэалагічнай закутасці. Дасціпна (з гуллівымі ўстаўкамі) падводзяць да высновы, што сексуальная рэвалюцыя не падпарадкоўваецца рэвалюцыі сацыяльнай... Перадача і яе стваральнікі карысталіся папулярнасцю на фестывалі...

«АСКЕПКІ» цыкла «Інстытут жанчын», *Ленінградскае* ТБ, аўтар Н. Садоўнікава, рэжысёр В. Кухарэнка, II прыз:

...Сапраўды, жанчыне столькі гадоў, на колькі яна выглядае — хочацца глядзець і слухаць ды зноў глядзець на француженку — гераіню перадачы. *Мы забыліся* на прыгажосць, якую дорыць Прырода ў абліччах жанчын. Мы забыліся на тое, што свята — хоць маленькае — можна стварыць штодня, толькі б заўважыць жаноцкасць, святло вачэй, усмешку каханай. І тады «з'явіцца радасць, яна дасць сілы творчасці, творчасць народзіць прыгажосць, а Прыгажосць, як вядома, выратуе свет...

«ЧУЖАНІЦА», Паўднёва-Сахалінскае ТБ, аўтар сцэнарыя і рэжысёр А. Данцоў, І прыз:

...Буйны план ботаў, якія трушчаць галлё, топчуць кветкі, траву. Твара мы не бачым, кірза ботаў замест твару... Чужаніца, чужаніца!..

Злавесны гук мора, забітая чайка. Старыя рускія крыжы, засыпаныя-забытыя ў пяску пад пахмурным небам. Нейкі «жартаўнік» павесіў чалавечыя косткі на крыж. Агонь, які быццам сам узнікае на сухіх каранях-шкілетах... Музычная поліфанія і гукавыя спецэфекты і вось ён, сімвал-папярэджванне: сцеражыся — чужаніца паліць ды разбурае!..

Журы спачатку мела дэмакратычны намер — не вызначаць месцаў. Сапраўды, дзе знайсці крытэрыі таго, па якіх параметрах можна параўнаць, скажам, «Чужаніцу» (І прыз) ды «Жыццё-быццё» (ІІ прыз)? Або нашу «Палітру» (III прыз) ды «Аскепкі» (ІІ прыз)? Але вырашылі ўсё ж ранжыраваць, як раней. Па звычцы?

Па сутнасці, за межы рэспублікі ў чарговы раз «паехала» тое асноўнае, дзеля чаго так настойліва імкнуліся на фестываль удзельнікі з бязмежных прастораў Расіі: ураджанні, новыя творчыя імпульсы, адчуванне журналісцкай салідарнасці. Прагляд-фестываль зноў «крыкнуў» пра шматлікія і такія аднолькавыя сацыяльныя хваробы, што працялі нашу краіну. «Чернуха» — гаварылі ў дыскусіях. Так, яе было нямала — больш за палову праграм адлюстроўвалі праблемы экалогіі, падлеткавай злачыннасці, алігафрэніі, наркаманіі, забытых старых, жабрацтва фізічнага і духоўнага, крылом — Чарнобыль і асэнсаванне жыцця «пад радыялогіяй». «От края и до края» быццам глядзелі на нас ненармальныя позіркі «дзяцей віна» і нашай чалавечай, сацыяльнай неадэкватнасці («Калыска для асуджаных», Алтайскі камітэт, «Ці ёсць будучыня ў спецшколы?», Валгаград, «Замкнёная прастора», Башкірыя, «Узрост «ікс», Чачэна-Інгушскі камітэт).

Па сутнасці, усе работы, якія мы глядзелі як маладзёжныя, непазбежна пацвердзілі выснову, што маладзёжнае вяшчанне як сфера тэлежурналістыкі, як пэўным чынам абмежаванае публіцыстычнае дзеянне — шмат у чым штучнае выдзяленне. Усе праграмы амаль без выключэння гаварылі (часам крычалі) пра нашы агульныя, так сказаць, «дарослыя» праблемы. Сапраўды, давайце ўспомнім, адкуль узялося вылучэнне маладзёжнай, дзіцячай журналістыкі? Ці не ад «усесаюзнай» савецкай псіхалогіі — з 20—40-х гадоў, калі трэба было спачатку ліквідаваць непісьменнасць, а, галоўнае, з «маладых пазногцяў» фарміраваць патрэбную савецка-сацыялістычную свядомасць у рэчышчы «будь готов — всегда готов!»? У такім сэнсе, у такім публіцыстычным рэчышчы, як у нас, маладзёжнага вяшчання няма нідзе ў свеце.

Журналісты практычна вызначылі натуральную сусветную тэндэнцыю: няма асобнага, маладзёжнага — дарослага тэлевяшчання, а ёсць агульначалавечая публіцыстыка, якую маладыя часта робяць больш дынамічна, сучасна, востра, чым «дарослыя». Успомнім лепшыя праграмы («Взгляд», «Крок», «600 секунд», тэлемарафоны і г. д.). Успомнім сямейныя прагляды: ці не глядзяць дзеці ды падлеткі «Да і пасля паўночы», «Время», «дарослыя» фільмы?

А цяпер пра матэрыю і журналіскую свядомасць. З марксізму быццам вядома, што вызначае што. А фестываль рэальна, літаральна «ўголас» (на дыскусіях, з перадач) прадэманстраваў, што ў нашым савецка-дзяржаўным выпадку стан электронна-тэхнічнай «матэрыі» балюча не вызначае і балюча не стымулюе дынаміку і рух маладых і наогул усіх тэлежурналістаў. Асабліва з так званай далёкай перыферыі (Татарыя, Калмыкія, Башкірыя, Алтай, Цюмень).

І яшчэ вызначыў прагляд-фестываль, што чалавеку, асабліва маладому, даспадобы дасціпнасць — як стан успрымання свету, як стаўленне да дзяржаўна-ідэалагічных, партакратычных, апаратных непаразуменняў, нарэшце, да свайго жыцця. Дасціпнасць — гэта мэта і патрэба маладога ды ўвогуле нармальнага чалавека, які павінен жыць не пад уціскам татальнага падпарадкавання, а з радасцю адчування

# ТЭРМІНУС

(Пачатак на стар. 8—9).

дзяляла знешнюю абалонку і трумы; паміж траверсамі цямнелі распухлыя рэзервовыя бочкі, зверху дзе-нідзе прабіваліся палосы пылу, празрыстыя ад святла. Ён зірнуў угару і ўбачыў у чорнай шахце два ланцужкі лямпаў, рудых ад пылу, які цягнуўся за імі доўгім воблакам, як дым нябачнага пажару. Паветра было тут затхлае, душнае, пахла нагрэтым жалезам. Піркс шыбаваў сярод ледзь прыкметных металічных канструкцый, а труба працягла звінела:

— П-р-а-т-а-д-г-у-к-н-і-с-я-п-р-а-т...

Трубаправод разгаліноўваўся. Піркс сціснуў рукамі абодва адгалінаванні, каб вызначыць, адкуль ідзе гук, але так і не разабраўся. Наўздагад збочыў налева. Нейкі люк. Вузкі наперадзе, чорны, як вугаль, тунель. У канцы — пляма святла. Піркс выскачыў з тунеля. Ён быў у тамбуры рэактара.

— Г-э-т-а-в-а-й-н-п-р-а-т-н-е-а-д-к-а-з-в-а-е-, — звінела труба, калі ён адчыняў першыя дзверы. У твар ударыла гарачае паветра. Піркс падняўся на насціл. Скавыталі кампрэсары. Цёплы вецер растрапаў яму валасы. Адсюль ён бачыў у ракурсе бетонную сцяну рэактара, свяціліся цыферблаты, чырвонымі кроплямі дрыжалі агеньчыкі сігналаў.

— С-і-м-о-н-д-а-в-а-й-н-а-ч-у-ю-м-о-м-с-е-н-а-п-а-д-а-м-н-о-ю, — грымела труба тут, побач з ім. Яна выходзіла са сцяны і дугой апускалася ўніз, злучалася там з галаўным трубаправодам.

Перад развілкай, раскірэчаны, стаяў Тэрмінус. Ён нібы змагаўся з нябачным праціўнікам — такія імклівыя былі яго выпады. Поўнымі жменямі ён шпурляў цеста з цэменту, пляскаў па ім, расплюшчваючы, папраўляў, надаваў патрэбную форму і пераходзіў на іншы адрэзак — тады наступала паўза. Піркс услухаўся ў рытм яго работы. Яго рукі, нібыта шатуны, выстуквалі:

— М-о-м-с-е-н-к-і-н-ь-ш-л-а-н-г-п-р-а-т-г-у-б-л-я-е-к-і-с-л-а-р-о-д...

Тэрмінус знерухомеў з узнятымі рукамі, падвешаны ў паветры насупраць уласнага, амаль чалавечага ценю. Яго *квадратная галава рухалася* направа і налева: ён правяраў наступнае спалучэнне. Нахіліўся. Склаў далоні шуфлем і набраў цэменту. Замахнуўся. Рукі ўваходзілі ў рытм. Труба задрыжала ад удараў:

— Н-е-а-д-к-а-з-в-а-е-н-е-а-д-к-а-з-в-а-е...

Піркс звесіў ногі праз поручні і плаўна спусціўся ўніз.

— Тэрмінус, — крыкнуў ён, перш чым дастаў нагамі да падлогі.

— Слухаю, — адразу ж адказаў аўтамат. Яго левае вока павярнулася да чалавека, правае працягвала хадзіць у арбіце, сочачы за рукамі, якія ляпілі на трубу цэмент, выбіваючы:

— П-р-а-т-а-д-г-у-к-н-і-с-я-п-р-а-т-п-р-ы-ё-м...

— Тэрмінус! Што ты робіш!! — крыкнуў Піркс.

— Ёсць цеча. Чатыры дзесятыя рэнтгена ў гадзіну. Пламбірую прабоіны, — глухім басам адказаў аўтамат, а яго рукі адначасова выбівалі:

— Г-э-т-а-в-а-й-н-м-о-м-с-е-н-а-д-г-у-к-н-і-с-я-м-о-м-с-е-н...

— Тэрмінус!!! — яшчэ раз крык-

паўнаты самавызначэння. Мо таму праграма «Жыццё-быццё» — Омскага ТБ, акрамя II прыза, атрымала і спецыяльны «Прыз калег», што ўстанавілі ўдзельнікі XI Усесаюзнага... Усмешлівы скепсіс, жартаўлівыя рытарычныя ды «вулічныя» пытанні ў праграме, кантрастны, «рэзаны» мантаж эратычных ды сексуальных кадраў і праз гэта — адчуванне пазбаўлення (нарэшце!) ад многіх замшэлых догмаў і канонаў з «Домостроя», што ўкараніліся ў наш, савецкі лад — гэта ў праграме падвяло да высновы: усё ў чалавеку можа і павінна быць прыгожым, толькі неабходны стрыжань, повязь, лучнасць чалавека-асобы і ўсяго нашага грамадства. А стрыжань той называецца «культура». Складаная катэгорыя, якую складана ўвасобіць на экране. А мы, БТ, усё ж паспрабавалі ў сваіх трох праграмах: «Палітра» (III прыз), «Браслаўскі альбом» ды «Людзі і палітыкі» (абедзве — спецпрызы).

Аўдыё-відэа-«Палітра» — фантазія-імправізацыя, у чымсьці абстрактная авангардная спантаннасць мастацкай думкі паводле электроннага «жывапісу». Ён, жывапіс, сам па сабе на экране (электроннае пераўтварэнне шэрагу карцін, фарбаў, ліній, электронныя рухі фарбавых плям, тоўстых і тонкіх рознакаляровых рысак), калі выключыць гук, музыку — бы абалонка паветранага балона без газу. І наадварот, калі дадаецца музыка (стварэнне музычна-калажнай паліфаніі, гукавога кантрапункту, які дакладна пападае ў візуальны вобраз), гэты электронны жывапісны «балон» быццам узлятае на вышыню, дзе лунае элітарная патрэба (вынік інтэлектуальнай работы) людзей. Аўтары-мастакі тэлебачання Генадзь Хмыз ды Алена Шкаева, музычны рэжысёр Ала Дрозд увасобілі мару спецыялістаў, якой ужо колькі гадоў: візуальную прастору мы можам падоўжыць, сціснуць, павялічыць у памерах, аддаліць, наблізіць. А некалькі гадоў існуе і электронны інструмент (прайгравальнік), які можа тэмп музычнага твора паменшыць, павялічыць без змяненняў танальнасці — фантастыка, у межах якой ці не кожны можа стаць выканаўцам, кампазітарам, а ў нашым выпадку — «электронным мастаком». А калі ў «Палітры» пад канец з'явіліся людзі — чараўнікі, дык нежывая аўдыёвізуальная электроніка пад таленавіты гука-музычны калаж стварае на экране дзею, якая абуджае фантазію і нейкае падсвядомае задавальненне: можам! Гэта з'ява культуры, інтэрнацыянальнай па праяве ды нацыянальнай па паходжанні.

(Дарэчы, днямі ў Рызе адбываўся міжнародны «Салон» — кінафорум «Арсенал» авангарднага электроннага мастацтва, на які пасля строгага адбору было запрошана і наша трыо са сваёй «Палітрай»).

У чымсьці перагукаецца з «Палітрай», на нейкім мэтаўзроўні (абуджэнне вышэйшых інтэлектуальных сфер), праграма «Браслаўскі альбом». Толькі сродкі іншыя ды падыход да эстэтычнага выніку іншы: крытычная публіцыстыка, у цэнтры якой вызначэнне звыклых праяў нашага савецкага быцця ў правінцыі — у краі шырока вядомых Браслаўскіх азёр. Тут драматургія перадачы («Рэпартаж з правінцыі» — такі яе падзагаловак) стваряецца з лаканічнага ды дасціпнага тэксту (кароткіх каментарыяў, пытанняў) вядучага Уладзіміра Сцепаненкі ды развяг старых, маладых, дзяцей, што жывуць у тым краі. А тэкст быццам уступае ў кантрапунктную сувязь з трыо мясцовых старых-музыкаў. Нібы пад «дырыжорскую» руку рэжысёра У. Траццякова лейтматывам праходзяць у іх выкананні пад дахам рамантычнай альтанкі полькі, вальсы, песні без слоў. І зноў стваряецца мастацкі эфект, калі адчуваеш нацыянальны каларыт ды сціплую прыгажосць, якую груба, нячула спрабуе зламаць (і ламае!) неадукаваная і некультурная дзяржаўнасць. У рэшце рэшт і абуджаецца ў гледача падсвядома-свядомае задавальненне: бач, захавалася ж нешта! І адначасова: зберагчы б!

Нарэшце, «Людзі і палітыкі» (аўтар Н. Чайка, рэжысёр В. Гаравы, тэлеаператар У. Андронаў) — адна з пяці частак цыкла «Пяць дзён на Зямлі Гесэн». Спроба, якіх з'яўляецца ўсё больш на БТ, пабачыць на «беларускія» вочы ды асэнсаваць-паказаць-расказаць суайчыннікам пра землі далёкія, якія не багацейшыя за нашы, але там чамусьці людзі жывуць заможна. Спроба ў чымсьці параўнаць «іхняе» і «нашае» новае мысленне, у якім апошнім часам шмат месца займае пераасэнсаванне мінулай вайны «заходнімі» немцамі. Спроба і ёсць спроба, бо хацелася пад час прагляду крыху зрэжысіраваць перадачу — «сціснуць» доўгія развагі герояў, паглыбіць ды пашырыць закадравыя каментарыі. Але нам, не распешчаным частымі замежна-заморскімі падарожжамі, усё роўна цікава, тым больш, што тэлеаператарскі «жывапіс» Уладзіміра Андронава адпавядаў той вонкавай нашай зацікаўленасці. Хачу заўважыць: гэта таксама крок у кірунку засваення культуры — сваёй праз чужую.

Культура. Дарагая шляхетная субстанцыя, якую тысячагоддзямі культывавалі людзі і змест якой — кнігі, музыка, дабротныя рэчы, сервіс, эстэтыка зносін, манеры, абстрактнае мысленне ды, па-над усім гэтым, дасціпны альтруізм і вясёлая чалавечая добразычлівасць. Яшчэ — свабода ад каманд, догмаў, прынцыпаў «дэмакратычнага цэнтралізму» ў імя стварэння сябе-гаспадара і сябе-спадара, каб водгулле гаспадарання голасу-розуму і мастацкай думкі гучала самастойна, непаўторна ды годна.

**Данат ЯКАНЮК.**

# З МАЛЕНСТВА АТУЛЯЛА МУЗЫКА

**Да 90-годдзя з дня нараджэння Рыгора ПУКСТА**

Пра беларускага кампазітара Р. Пукста напісана нямала, у асноўным пра ягоную творчасць, ягоны ўклад у беларускую музычную культуру. Меней вядома пра пачатак шляху кампазітара, ягоныя юнацкія гады. Гэты перыяд біяграфіі Р. Пукста я і хачу згадаць, тым больш, што асабіста добра ведаў яго...

Рыгор Пукст нарадзіўся ў сям'і кадравага рабочага, слесара-чыгуначніка. У передрэвалюцыйныя гады вялікая шматдзетная сям'я Канстанціна Пукста жыла ў Гомелі ў раёне сённяшніх вуліц Дакутовіч, Чырвонай, Цялегіна. У гэтай сям'і ўсе былі вельмі музыкальныя, усе спявалі, ігралі на розных інструментах. З дзіцячых гадоў Рыгора атуляла музыка.

Перад пачаткам першай імперыялістычнай вайны галава сям'і Канстанцін Пукст трагічна загінуў пры выкананні службовых абавязкаў, і Рыгор, як старэйшы ў сям'і, павінен быў падумаць пра сваю будучую прафесію. У 1914—1917 гадах ён вучыцца ў Гомельскім тэхнічным чыгуначным вучылішчы, потым нейкі час працуе слесарам, памочнікам машыніста, а потым і машыністам на цягніку. Урыўкі вольнага часу ён аддае музыцы, падбірае знаёмыя мелодыі і спрабуе іх запісваць нотамі. У яго быў выдатны слых і музычная памяць.

У 1918 г. Гомель быў акупіраваны нямецкімі войскамі. Малады машыніст спрабаваў хавацца ў горадзе, а калі яго немцы ўсё-такі адшукалі, каб прымусіць весці ваенны эшалон, ён здолеў уцячы ад канваіраў.

У першыя гады Савецкай улады на Гомельшчыне пры амаль цалкам разбураным транспарце Рыгор Пукст разам з усімі чыгуначнікамі змагаўся за аднаўленне транспарту, рамантаваў і вадзіў свае лакаматывы, а вольны час нават у гэты цяжкі перыяд аддаваў музыцы.

Хутка яго накіравалі на работу інструктарам палітасветы Дарпрафсожа Заходняй чыгункі. Тут разгарнуўся ягоны талент музыканта-арганізатара. Дзякуючы намаганням Р. Пукста запрацавалі пры Цэнтральным клубе Гомельскага чыгуначнага вузла імя Леніна гурткі мастацкай самадзейнасці: харавы, музычны, танцавальны, драматычны.

У гэты час пачалі арганізаваную работу і першыя савецкія школы. Напачатку многага не хапала. У тым ліку і настаўнікаў музыкі і спеваў. І вось Р. Пукст пачынае працаваць у агульнаадукацыйнай чыгуначнай школе выкладчыкам спеваў, а паколькі ён закончыў у свой час тэхнічнае вучылішча, то выкладае тут жа, у школе, і чарчэнне. Менавіта тут у тыя гады вучыўся і я ў 5-м класе чыгуначнай школы (школы першай ступені, як тады называліся яны да 5-га класа).

Цяпер нават цяжка сабе ўявіць школу тых гадоў. Добра памятаю аднапавярховы мураваны будынак станцыі Гомель-сартавальная непадалёк ад таго месца, дзе жыла сям'я Пукстаў. Палову будынка займалі службы самой станцыі, а ў другой палове месцілася школа. Гэта былі 3—4 невялікія пакоі. У першыя паслярэвалюцыйныя гады, як вядома, парушыўся працэс школьнай адукацыі, і, напрыклад, у 5-м класе ўзроставы склад навучэнцаў быў вельмі стракаты: ад 12 да 16 гадоў. У такім узроставым асяроддзі маладога настаўніка Пукста нялёгка было адрозніць ад вучняў, тым больш, што быў ён хударлявы і крыху ніжэй сярэдняга росту. Але, нягледзячы на гэта, павагай ён карыстаўся вялікай і сярод настаўнікаў, і сярод вучняў. Гэтая павага была асабліваю і таму, што многіх старэйшых вучняў ён з вялікім поспехам уцягваў у пазашкольную музычную самадзейнасць, што ладзілася па вечарах у Цэнтральным клубе чыгуначнікаў імя Леніна. Гэтая частка вучняў паважала яго асабліва.

Між іншым, пачатковыя навыкі, атрыманыя мною па чарчэнні ад Рыгора Канстанцінавіча Пукста, спатрэбіліся ў маёй будучай спецыяльнасці, дзе чарчэнне мела вялікае значэнне. (Працаваў я геадэзістам, перад выхадам на пенсію быў галоўным геадэзістам у ВА «Гомельпрамбуд»).

Год 1923-ці быў апошнім годам, калі малады Р. Пукст працаваў у Гомелі ў школах і ў музычнай самадзейнасці. Летам таго года ён паспяхова вытрымаў выпрабаванні і быў залічаны студэнтам кампазітарскага аддзялення Маскоўскай кансерваторыі. Ён быў першы беларускі кампазітар, які паспяхова ў 1928 годзе скончыў сталічную кансерваторыю і ўвайшоў у лік першых прафесійных музыкантаў Савецкай Беларусі.

**Расціслаў МУЗЫЧЭНКА.**
**г. Гомель.**

# ЗАЗІРНІЦЕ Ў «НАША СЛОВА»

**Воблік Сяргея Палуяна ўпрыгожвае першую паласу кастрычніцкага нумара бюлетэня «Наша слова». Яшчэ адны ўгодкі з дня нараджэння таго, хто стаяў ля вытокаў нашага Адраджэння. 100-годдзе С. Палуяна — адначасова магчымасць задумацца, хто ёсць мы ў гэтым тлумным свеце, куды ідзём, да чаго імкнёмся. Уяўленне аб творчасці пісьменніка даюць яго развагі «З нашага жыцця».**

**Праблемы беларускай мовы закранаюцца ў артыкулах намесніка старшыні Мінскай гарадской рады ТБМ І. Чарняўскага «Перамены на дарогах?» і Я. Войніча «Беларускі правапіс: працяг рэпрэсій».**

**Бюлетэнь запрашае адзначыць Дзяды (А. Хатэнка, «Дзяды, прыйдзеце...») і дае апісанне правядзення гэтага свята ў розных мясцінах рэспублікі. А. Клышка раіць, як правільна пісаць імя па бацьку; У. Пучынскі расказвае пра М. Сяднёва; З. Сіцько мовіць слова пра месяц кастрычнік; Г. Юрчанка знаёміць з гаворкамі Мсціслаўшчыны; Г. Сагановіч кідае позірк у сівую мінуўшчыну, у тую Літву, якая атаясамлялася і з Беларуссю.**

**У нумары — ліст народных дэпутатаў Н. Гілевіча, Л. Баршчэўскага, А. Трусава і Я. Цумарава першаму сакратару ЦК КПБ Я. Сакалову аб тым, як вырашыць пытанне з размяшчэннем філфака БДУ, адказ на яго і рэдакцыйны каментарый; паэтычныя падборкі «Зямлі бацькоў — не анямець!» і «Голас дзяцей — голас божы», іншыя матэрыялы.**

нуў Піркс, гледзячы то на металічны твар са скошаным на яго левым вокам, то на мільганне жалезных далоняў.

— Слухаю, — гэтак жа аднастайна паўтарыў аўтамат.

— Што ты... перадаеш марзянкай?!

— Пламбірую цечы, — адказаў нізкі голас.

— С-і-м-о-н-д-а-в-а-й-н-а-і-п-о-т-э-р-а п-р-а-т-м-а-е-н-у-л-ь- м-о-м-с-е-н- н-е-а-д-к-а-з-в-а-е... — грымела жалеза пад яго мільгаючымі рукамі. Цяжкае цеста з цэменту расплюшчвалася, сцякала, рукі падхоплівалі яго, прылеплівалі, прыціскалі да акруглай паверхні. На нейкае імгненне яго ўзнятыя ўгару рукі застылі, пасля аўтамат нахіліўся, набраў новую порцыю цэменту і пасыпалася цэлая лавіна імклівых удараў:

— М-о-м-с-е-н-м-о-м-с-е-н-м-о-м-с-е-н-а-д-г-у-к-н-і-с-я-м-о-м-с-е-н- м-о-м-с-е-н-м-о-м--с-е-н-м-о-м-с-ен-м-о-м... — Рытм шалёна павялічваўся, увесь трубаправод тросся і стагнаў пад градам удараў, гэта было падобна на бясконцы крык.

— Тэрмінус!!! Перастань!!! — Піркс кінуўся наперад і схапіў аўтамат за мокрыя ад алівы локці, якія выслізнулі ў яго з рук. Тэрмінус сціх, напружаны, было чуваць толькі працяглае цмоканне помпаў за бетоннай сцяной. Перад Пірксам знаходзіўся корпус аўтамата, заліты алівай, якая сцякала па яго падобных на слупы нагах. Піркс адступіўся.

— Тэрмінус... — прамовіў ён ціха. — Што ты... — І замоўк.

Жалезныя далоні з моцным грукатам сышліся. Яны церліся адна аб адну, здзіраючы рэшткі прысохлага цэменту, якія замест таго, каб упасці, затанцавалі ў паветры, расплываючыся, як кругі дыму.

— Што ты... рабіў? — спытаў Піркс.

— Пламбірую цечы. Чатыры дзесятыя рэнтгена ў гадзіну. Ці магу пламбіраваць далей?

— Ты выстукваў марзянкай. Што ты перадаваў?

— Марзянкай, — паўтарыў ён дакладна такім жа тонам і дадаў: — Не разумею. Ці можна пламбіраваць далей?

— Можна, — мармытнуў Піркс, пазіраючы на вялізныя рукі, якія павалі выпрасталіся, — так, можна...

Піркс чакаў. Тэрмінус ужо не бачыў яго. Ён набраў левай рукой цэменту і імклівым рухам кінуў на сцяну. Замацаваў — расплюшчыў — загладзіў: тры ўдары. Зараз правая рука паспяшалася да левай, і труба забубніла:

— П-р-а-т- л-я-ж-ы-ц-ь- у-ш-о-с-т-ы-м...

— М-о-м-с-е-н...

— А-д-г-у- к-н-і-с-я -м-о-м-с-е-н...

— Дзе Прат?!!! — дзіка закрычаў Піркс.

Тэрмінус, жалезныя рукі якога мільгалі ў святле лямпаў, як бліскучыя палосы, адразу ж адказаў:

— Не ведаю.

Адначасова ён выстукваў з такой хуткасцю, што Піркс ледзь паспеў разабраць:

— П-р-а-т -н-е- а-д-к-а-з-в-а-е...

І тут адбылося нешта страшнае. На тую серыю, што адбівала правая рука, наклалася іншая, значна слабейшая — яе выстуквалі пальцы левай; сігналы змяшаліся, і на працягу некалькіх секунд трубапровад тросся ад грому падвойных удараў, з якіх вынырнула затухаючая серыя:

— М-е-р-з-н-у-ц-ь -р-у-к-і -н-е-м-а-г-у-ж-о...

— Тэрмінус... — аднымі губамі прашаптаў Піркс, адыходзячыся да металічных сходаў. Аўтамат не чуў. Яго тулава, бліскучае ад алівы, уздрыгвала згодна з рытмам працы. Нават не слухаючы, толькі па бліскучых руках металу Піркс мог прачытаць:

— М-о-м-с-е-н-а-д-г-у-к-н-і-с-я...

Пераклад з польскай мовы Максіма ВАЛОШКІ.

# ХЛЕБ І КНІГА

## «Залаты век» Беларусі ў люстэрку года Скарыны

ПАДЫХОДЗІЦЬ к канцу Скарынавы год. Беларусь сціпла адсвяткавала 500-годдзе свайго вялікага сына. Свята тое мела пэўны рэзананс і па-за межамі рэспублікі, але таксама сціплы, нязначны. Час зараз такі, што на першым месцы не культура, а палітыка і эканоміка. Прычым эканоміка ў самым вульгарным разуменні: як atavарыць рубель (даруйце, талон). Прыціснуты штодзённымі клопатамі чалавек рэдка задумваецца аб вечным. Калі прадметам раскошы становіцца рэч першай неабходнасці, пытанне, накшталт, якім быць помніку Першадрукару будзе хваляваць нямногіх. Толькі тых, хто разумее, што жывём мы не па-людску менавіта таму, што страцілі нацыянальную, чалавечую годнасць. З народам, які абыякавы да сваёй мінуўшчыны і будучыні, які выракаецца сваёй мовы, не шануе сваіх пракарокаў і пакутнікаў, можна рабіць усё, што заўгодна.

**Свята не атрымалася, бо гэта было закладзена ў ягонай праграме. А праграму гэтую зацвярджала, як вядома, самая верхняя ўлада Рэспублікі. Калі мы прыгадаем, як калісьці праходзілі на Беларусі юбілейныя ўрачыстасці ў гонар Міколы Гусоўскага, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа і іншыя падобныя, дык заўважым адну заканамернасць. Тыя, хто мае ўладу, рабілі ўсё магчымае, каб толькі не «падыграць» беларускаму «нацыяналізму» — а то яшчэ беларусы аб сабе многа думаць пачнуць. Памятаеце 500-годдзе Міколы Гусоўскага: нават у віншавальнай тэлеграме з Масквы гаварылася аб беларускім паэце, аб «блукаючай зорцы, што вярнулася ў родную галактыку», а ў нас паўсюдна праходзіла расплывістае, нейкае неакрэсленае «славянскі паэт Мікола Гусоўскі». 90-годдзе Багдановіча: не захацелі нашыя ўлады перанесці прах Паэта на Радзіму, хоць пра гэта гаварылі многія дзеячы культуры і думку гэтую падтрымлівала грамадства. Разумелі, перазахаванне Паэта ў родную зямлю стане дэманстрацыяй нацыянальных пачуццяў. А чаго каштавала паставіць помнік Паэту на прэстыжным месцы перад Оперным тэатрам? Як упарта ГалоўАПУ на чале з тагачасным галоўным архітэктарам Мінска Грыгор'евым імкнуліся заперці помнік ці ў Серабранку, ці ў Чыжоўку. ці паставіць каля варот карчмы ў Траецкім прадмесці. І як скрыгаталі зубамі, калі не атрымалася... Мо, дарэчы, таму і помнік не вельмі ўдалы, бо культурнаму грамадству даводзілася займацца не столькі мастацтвам, як барацьбою з цемрашаламі. Гэта датычыць і помніка Якубу Коласу. Калі я пытаўся ў некаторых беларускіх скульптараў, што яны думаюць пра гэтага бронзавага монстра, мне адказвалі: «Тое, што і ты. Але калі б у той час распачалі спрэчкі аб мастацкай форме, помнік паставілі б гадоў на дзесяць пазней. Усе былі рады, што ўвогуле дазваляюць паставіць помнік Коласу. Разумееш, дазволілі... Калі такое было?!» У 100-годдзе Купалы мы так і не пабачылі абяцанага поўнага збору твораў песняра.**

Тая ж заганная традыцыя мела працяг і ў святкаванні 500-годдзя Скарыны. Як спачатку наверсе ў штыкі была ўспрынята ідэя факсімільнага выдання Скарынавых кніг. Гэта што ж, маўляў, мы будзем прапагандаваць рэлігію? А конкурсная «эпапея» з будучым помнікам Першадрукару ў Мінску? Відавочна, што апошні тур з выбарам новага месца рабіўся для таго, каб помнік не стаяў на цэнтральнай вуліцы горада, каб праспект не стаў называцца праспектам Францыска Скарыны.

Цягнецца гэта ўсё з таго часу, калі аднойчы і, як лічылася тады, назаўсёды была зацверджана субардынацыя ўсіх народаў «дзяржавы рабочых і сялян».

ПРЫ «ІНТЭРНАЦЫЯНАЛІЗМЕ» добрым тонам лічылася абліваць брудам усё, чым народ можа ганарыцца. І ўжо зусім небяспечна было заікнуцца, што быў час, калі Беларусь ішла папераддзе Масковіі (XV—XVII стагоддзі), час, які мы называем «залатым векам» беларускай культуры. Час Скарынавай Біблії і Статута Вялікага княства. Такое парушэнне субардынацыі разглядалася як нацыяналізм. У 30 — 50-я гады за гэта можна было паплаціцца галавою, а ў пазнейшы час — кар'ерай. Вось і спаборнічалі паміж сабою нашы навукоўцы: хто лепей выкажа тое, што жадаюць пачуць наверсе, хто трапней плюне ва ўласны народ. Вось некалькі цытат з «твораў» тутэйшых і маскоўскіх аўтараў:

**«Ніякага росквіту беларускай культуры ў той змрочны час (XIII—XVIII стагоддзі) не было і не магло быць — аж да Вялікай сацыялістычнай рэвалюцыі» (М. Ларчанка. «Да пытання аб гісторыі старажытнай і пачатку новай беларускай літаратуры», «Літаратура і мастацтва» № 8 (350), 1938 г.).**

**«Пытаясь оторвать белорусский народ от русского, реакционеры-националисты в свое время выдумали легенду о «золотом веке» белорусской культуры, который, по их утверждениям, приходился на период порабощения Белоруссии польскими и литовскими магнатами. Мрачная эпоха, когда БЕЛОРУССКИЙ НАРОД НЕ ИМЕЛ СВОЕЙ ПИСЬМЕННОСТИ (падкрэслена мною. — П. В.), изображается ими как время невиданного политического, культурного и экономического расцвета. Проповедники этих взглядов, фальсифицирующих историю, маскировали свою ненависть к русскому народу ссылками на гнет царского самодержавия, *игнорируя ленинское* учение о двух культурах — культуре демократической и культуре буржуазно-помещичьей. Идейным источником подобных установок является печальной памяти «История белорусской литературы» махрового националиста Максима Горецкого.**

**МИФ О «ЗОЛОТОМ ВЕКЕ» ДОЛЖЕН БЫТЬ ОКОНЧАТЕЛЬНО РАЗОБЛАЧЕН КАК ИЗДЕВАТЕЛЬСТВО НАД НАЦИОНАЛЬНЫМ ДОСТОИНСТВОМ БЕЛОРУССКОГО НАРОДА».**

**(В. Гальперин. «О пережитках буржуазного национализма в белорусском литературоведении», «Литературная газета», 2 мая 1948 г.).**

**«Распаўсюджваючы сваю хлусню аб «народапраўстве». аб «залатым веку», былыя гітлераўскія паслугачы процістаўляюць сучасную савецкую рэчаіснасць далёкаму мінуламу беларускага народа, якое яны выдаюць за найлепшыя часы ўсёй яго гісторыі. Але гістарычныя факты пераканаўча паказваюць, чаго варты іх антысавецкія паклёпы».**

**(Л. Абэцэдарскі. «У святле неабвержных фактаў», Мінск, 1969; перавыдадзена ў перакладзе на рускую мову ў 1987 годзе ў Мінску ў зборніку «Дары данайцев»)**

**«...наши предки в Великороссии (маецца на ўвазе Масковія 1380 года, — П. В.) могли оказаться в положении УГНЕТЕННОЙ ЭТНИЧЕСКОЙ МАССЫ БЕЗДУХОВНЫХ ВОЖДЕЙ ПОДОБНО УКРАИНЦАМ И БЕЛОРУСАМ в Польше (Польшча ў разуменні аўтара гэта аб'яднаныя «Літва» і «Карона». — П. В).**

**(Л. Гумилев, «Год рождения 1380...», «Декоративное искусство СССР», № 12, 1980, Москва).**

Вось так, ніякага росквіту аж да Кастрычніцкага перавароту. Нават пісьменства свайго не было, не народ, а этнічная маса... А Скарына, першадрукар Беларусі і ўсходніх славян; а Мікола Гусоўскі, стваральнік геніяльнай паэмы «Песня пра зубра»; а Сымон Будны, аўтар першага ў Еўропе навукова-крытычнага аналізу Новага запавету — ці ж гэта духоўныя правадыры? Куды ім да такіх айцоў нацыі, як Іван Грозны ды Малюта Скуратаў...

Прызнанне за Беларуссю яе культурна-гістарычнай спадчыны было б ударам па расійскім шавінізме, а рыкашэтам — па ягонай крэатуры на Беларусі , і магло моцна пахіснуць «субардынацыю» ва ўсходнеславянскай трыядзе (Вялікая, *Малая, Белая*).

Таму і адводзілася Францыску Скарыне, перайменаванаму на расейскі манер Георгіем, сціплая роля «малодшага брата» маскоўскага першадрукара (у пацвярджэнне слоў Багдановіча — земляка Скарыны) Івана Федаровіча, перайменаванага на расейскі манер у Фёдарава.

Здаецца, толькі ў час святкавання 500-годдзя Францыск Скарына ўпершыню быў ушанаваны не толькі як першадрукар Беларусі, але і ўсяго ўсходняга славянства. Бадай, упершыню быў афіцыйна прызнаны прыярытэт Беларусі ў галіне культуры і асветы (ці даўно сцвярджалася, што Іван Фёдараў па загадзе цара Аляксея Міхайлавіча паехаў на Беларусь з асветніцкай місіяй — хоць і вядома было, што ён проста ўцёк сюды ад цемрашалаў). Што ж гэта такое здарылася? Думаю, нарэшце ў Цэнтры ўсвядомілі, што нельга болей ігнараваць нацыянальныя пачуцці беларусаў. Тым болей, што ў Рэспубліцы актывізуюцца патрыятычныя сілы, маючыя блізкай мэтай незалежнасць Беларусі. Сёння ідэя адзінства славянскіх рэспублік СССР (чытай А. Салжаніцына «Як нам упарадкаваць Расію») — «апошняя саломінка», за якую спрабуюць ухапіцца прыхільнікі «аднаўленай федэрацыі». Таму і зачасцілі на Беларусь эмісары «славянскага адзінства» — то Ілля Глазуноў са свай выставай, то камітэт адраджэння храма Хрыста-Збаўцы ў Маскве, то прадстаўнікі «рускамоўнага насельніцтва» Прыбалтыкі. Я вельмі паважаю Іллю Глазунова — выдатнага мастака нашага часу, спачуваю справе адраджэння славутага храма і не ўхваляю экстрэмісцкіх выпадаў (на жаль, такое ёсць) супраць некарэнных народаў Балтыі, але супраць уцягвання Беларусі ў палітычныя гульні, дзе каардынатар — Цэнтр.



Ю. АНУШКА. «Васіль Цяпінскі».

ЯК УЖО НЕАДНОЙЧЫ было пры святкаваннях слаўных гадавін нашай гісторыі, галоўнай падзеяй Скарынавага года стала рэспубліканская мастацкая выстаўка. Яна пераканаўча засведчыла еўрапейскі кантэкст беларускай культуры і таму мела не толькі культурны, але і палітычны сэнс. Зварот творцаў да гістарычнай тэматыкі, да нацыянальнай культурнай спадчыны ў спецыфічных умовах Беларусі, дзе мясцовае начальства, выслужваючыся перад «старэйшым братам», заўжды бегла наперадзе паравоза ў справе «зліцця» нацый і моў, ужо даўно стаў формай дэманстрацыі палітычных поглядаў. Напрыклад, мастацкія выставы, прысвечаныя юбілеям славутых дзеячаў беларускай гісторыі і культуры, заўжды былі «запланаванымі», рабіліся выключна на энтузіязме. 1976 год — 100-годдзе Алаізы Пашкевіч (Цёткі); 1980 — 500-годдзе Міколы Гусоўскага, 1981 — 90-годдзе Максіма Багдановіча; 1983 — 460 год «Песні пра зубра», гэты спіс можна доўжыць. Запланаванай, «заказной» была толькі выстава 1982 года да стагоддзя Янкі Купалы і Якуба Коласа. І гэта зразумела, бо творчая спадчына двух вялікіх песняроў, адрэдагаваная ў адпаведнасці з бальшавіцкай палітыкай, ужо даўно скарыстоўвалася ў прапагандысцкіх мэтах (Купала? Колас? — Ведаем, песняры калгаснай вёскі...) Але нагадаю, што выстава тая атрымалася не па сцэнарыі і стала сапраўды выдатнай, нават эпахальнай падзеяй у выяўленчым мастацтве, увогуле ў беларускай культуры.

Паколькі выставы гэтыя мелі даволі нефармальны характар, менавіта яны паспрыялі стварэнню нефармальных суполак у сістэме рэспубліканскага Саюза мастакоў. Тут людзі змагаліся не за выгодныя заказы, а за ідэю, за права выстаўляць на суд гледачоў тое, што мастак сам лічыць патрэбным. Так, у 1980 годзе, калі напярэдадні адкрыцця выставы «Мікола Гусоўскі і яго час» прадстаўнікі ідэалагічнага кантролю загадалі зняць з экспазіцыі некалькі твораў, дзе прысутнічала выява «Пагоні», яны, нечакана для сябе, наткнуліся на вельмі рэдкую ў мастакоўскім асяроддзі салідарнасць. Тыя мастакі, да якіх прэтэнзій не было, прыгразілі, што таксама паздымаюць свае работы, калі будуць крыўдзіць іхніх калег, і выстава такім чынам увогуле не адбудзецца. Зразумела, што ў «адказных таварышаў» была вялікая спакуса «власть употребить», але... Юбілей Гусоўскага быў уключаны ў каляндар памятных дат ЮНЕСКА, ужо былі запрошаны госці з-за межаў рэспублікі, зацверджана праграма святкавання — скандал у гэтай сітуацыі мог набыць нават сякі-такі міжнародны рэзананс. Давялося адступіць.

Былі канфлікты і потым. У 1981 годзе група мастакоў адмовілася ад удзелу ў выставе да 90-годдзя Максіма Багдановіча. Свой учынак яны тлумачылі нязгодай з палітыкай выстаўкома. Выстава да юбілею вялікага сына Беларусі,— гаварылі яны,— гэта не якая-небудзь там «Беларусь сацыялістычная», і адбор твораў павінен быць прынцыповым; нядзатнае штукарства толькі кампраметуе вялікае імя; мастакі, якім абыякавы Багдановіч, Беларусь, не маюць маральнага права на ўдзел у выставе.

Сёння, азіраючыся назад, думаю, што гэта была не лепшая форма барацьбы. Выстава пачыналася як «пазапланаваная», але потым стала «заказной», нефармальная ініцыятыва была ўжо страчана, а значыць, трэба было дзейнічаць у «прапанаваных абставінах», а не абвастраць канфлікт. А так гледачы не пабачылі ў экспазіцыі шэраг высокамастацкіх твораў. Яны, праўда, потым экспанаваліся на іншых выставах.

ПАЧЫНАЛЬНІКАМ беларускай мастацкай Скарыніяны *можна лічыць выдатнага* мастака XX стагоддзя Язэпа Драздовіча. Выкананы ім у 1910 годзе бюст Першадрукара — самы ранні твор нашай Скарыніяны, хоць, можа, проста яшчэ не знойдзены больш раннія. Потым мастак звяртаўся да вобраза Скарыны ў 1927, 1940, 1944 гадах. Драздовіч ішоў ад вядомага партрэта, змешчанага ў Скарынавай «Бібліі», але здолеў стварыць самабытны вобраз. У выразным нацыянальным тыпажы мастак адлюстраваў характэрныя рысы чалавека Адраджэння—пачуццё ўласнай годнасці, спагадлівасць, патрыятызм, валявую сканцэнтраванасць.






В. СМАЛЯК. «Грунвальд. 1410».

Я. Драздовіч пражыў драматычнае жыццё, спачатку ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй, потым у Беларусі Савецкай. Да канца сваіх дзён (мастак памёр у 1954 годзе) ён захаваў філасофска-рамантычны погляд на сівую мінуўшчыну Беларусі. Гэта была своеасаблівая форма непрымання сучаснай яму рэчаіснасці.

У Савецкай Беларусі нагодай да мастацкага асэнсавання вобраза Скарыны стала святкаванне 400-годдзя беларускага кнігадруку (1925 год). Святкаванне тое супадае з вышэйшай кропкай беларусізацыі ў БССР. Літаральна некалькі гадоў здаровага сэнсу ў культурнай палітыцы рэспублікі. А пачынаючы недзе з 1928 года, тых, хто за гэты кароткі перыяд вылучыўся сваім талентам і інтэлектам, пачынаюць спачатку высылаць і саджаць, а крыху пазней — расстрэльваць.

Першыя творы беларускай савецкай Скарыніяны былі варыяцыямі на тэму вядомага партрэта Першадрукара. Гэта літаграфія А. Бразэра (1926), жывапісны партрэт работы Я. Кругера (1925), скульптурны — работы З. Азгура (1924). «30-я гады,— як пішацца ў энцыклапедычным даведніку «Францыск Скарына»,— былі менш плённымі, што звязана з рэзкімі выпадамі супраць Скарыны крытыкаў-вульгарызатараў». І так было недзе да сярэдзіны 50-х гадоў. Праўда, у гэты даволі змрочны перыяд час ад часу мастакі ўсё ж звярталіся да вобраза Скарыны. Скажам, у 1953 годзе неблагі партрэт Першадрукара зрабіў Г. Ахрэмчык, у 1944 годзе — З. Азгур.

Як лепшае з таго, што створана ў 50-х — пачатку 60-х гадоў, я назваў бы жывапісныя палотны беларускага віленскага мастака П. Сергіевіча «Скарына ў друкарні» (1957), «Скарына ў рабочым кабінеце» (1960) і скульптуру А. Глебава «Францыск Скарына» (1954) — потым гэта скульптура стала асновай для помніка ў Полацку (1974).

Бывае даволі цяжка растлумачыць, чаму твор мастацтва падабаецца ці не падабаецца. У творах Сергіевіча і Глебава я адчуваю некан'юнктурны падыход, бачу, што рабілася гэта не на заказ, а для душы. Стрыманая колерная гама жывапіснага палатна, статычная пабудова скульптуры, але чамусьці прыгадваюцца словы, што вялікія справы робяцца без вонкавых эфектаў.

У 50-х — пачатку 60-х гадоў скарынаўская тэма была ўжо часткова рэабілітавана. Афіцыйна яна перастала лічыцца нацыяналістычнай у 1967 годзе, юбілейным годзе беларускага кнігадруку. Прыблізна з гэтага часу Скарыну малююць ці не ўсе, але, зразумела, не кожнаму дадзена сказаць важкае пераканаўчае слова. Гэта ўдалося І. Давідовічу («Першадрукар Ф. Скарына», 1968). Пры прастаце сюжэта ў ім закладзены глыбокі сэнс. Светлавалосая дзяўчынка трымае ў руках разгорнутую Скарынаву «Біблію». За яе спіною стаіць сам Першадрукар, нібыта засланяючы яе ад злога вока. Праўда, у гэтым творы трэба адзначыць і пэўныя недакладнасці. Відаць, што мастак дрэнна ведае матэрыяльную культуру Беларусі часоў Скарыны. Ды гэта, зрэшты, не столькі віна мастака, як ягоная бяда. Многім мастакам Беларусі не стае ведаў па беларускай гісторыі.

На сённяшні дзень ці не найвышэйшае дасягненне беларускай жывапіснай Скарыніяны — два палотны А. Марачкіна — «Пачатак. Францыск Скарына» (1976) і «Скарына і Парацэльс» (1990). Часам здаецца, што Скарына, які фактычна і быў заснавальнікам мастацкай Скарыніяны, нібыта спецыяльна паклапаціўся аб мастаках, змясціўшы ў сваёй «Бібліі» ўласны партрэт. Большасць сучасных партрэтаў Скарыны так ці інакш зыходзяць з яго. Здаецца, адзіны з нямногіх, хто маляваў Скарыну, не азіраючыся на той славуты аўтапартрэт Першадрукара,— італьянец Джакама Форна, аўтар фрэскавага партрэта Скарыны ў зале Сарака Падуанскага універсітэта (1942).

Марачкін таксама пераадольвае выяўленчыя стэрэатыпы, стварае ў нечым нечаканы, але вельмі пераканаўчы адухоўлены вобраз Скарыны. Гэта тое, што называецца праўдай без верагоднасці.

ХАРАКТАРЫЗУЮЧЫ сёлетнюю рэспубліканскую мастацкую экспазіцыю, прысвечаную 500-годдзю Скарыны, дазволю сабе выказаць думку, што гэта апошняя маштабная выстава, якую ладзіць Саюз мастакоў Беларусі да юбілейнай даты. Невядома, ці будуць ў будучым увогуле рэспубліканскія выставы, бо ўжо сёння Саюз мастакоў уяўляе сабою кангламерат суполак, сябры якіх прытрымліваюцца дыяметральна супрацьлеглых поглядаў і на мастацтва, і на палітыку. І сабраць іх пад адным тэматычным дахам будзе ўсё цяжэй і цяжэй. Ды і ці трэба?

Хоць мастацтва на Беларусі па-ранейшаму мае аднаго «мецэната» — дзяржаву ў асобе Міністэрства культуры (таму выставы па-ранейшаму застаюцца ўрачыстым закрыццём дагавораў, тут галоўны герой не мастак і не глядач, а ацэначная камісія міністэрства), ды мы ўсё ж стаім на парозе рынку. Значыць, прынцыпова зменіцца характар мастацкіх выставак.

Падобна на тое, што справа асветніцтва нарэшце пераходзіць ад мастакоў да гісторыкаў. З'явіўся шэраг публікацый, дзе гісторыя Беларусі асвятляецца даволі аб'ектыўна, у любым выпадку аўтары абапіраюцца на логіку і здаровы сэнс, а не на «партыйнасць» і «класавыя інтарэсы». Будуць змены ў музейных экспазіцыях, у школьных і вузаўскіх праграмах, а мастакі зоймуцца ўласна мастацтвам. Варта адзначыць, што ў цэлым адбор твораў у экспазіцыю быў даволі строгі і прынцыповы. Сярод удзельнікаў выставы шмат мастакоў, чые імёны ўжо самі па сабе ёсць гарант якасці. А. Кашкурэвіч, А. і М. Басалыгі, А. Кішчанка, М. Купава, У. Савіч, У. Тоўсцік, А. Фінскі і многія іншыя. Далей можна было б назваць імёны мастакоў, якія яшчэ не пераступілі «маладзёжную» ўзроставую мяжу, але чыя творчасць плённа ўплывае на культурны працэс у Беларусі. Гэта маладыя графікі — выхаванцы Беларускага тэатральна-мастацкага і скульптары, сярод іх многія прынялі ўдзел у конкурсе на помнік Першадрукару ў Мінску. Жывапісная школа на Беларусі пакуль што ў стадыі станаўлення. А ў манументальна-дэкаратыўным жывапісе вялікія надзеі ўскладаюцца на выпускніка гэтага года А. Пушкіна. У гэтую экспазіцыю ён прадставіў вельмі густоўныя жывапісныя... мініяцюры. Відаць, мастаку трэба крыху адпачыць пасля грандыёзнай дыпломнай работы — роспісу фае школы-інтэрната імя І. Ахрэмчыка. Там, дарэчы, прысутнічае і постаць Скарыны. Новая карціна Г. Вашчанкі «Вяртанне». За сталом, накрытым белым абрусам, сядзіць Скарына. Ён глядзіць у бок, нібыта кагосьці чакае. На стале ляжыць кніга. Жанчына ў намітцы кладзе побач з ёю бохан свежаспечанага хлеба. Хлеб і кніга — госцю. Здаецца, зараз ён увойдзе ў хату і сядзе ў падрыхтаванае для яго крэсла. Хто ён? Беларус, наш сучаснік. Гэта нам пакінулі продкі Хлеб і Кнігу — Зямлю і неба. Што застанецца пасля нас? Няўжо мы апошнія, хто разумее Скарынава слова без перакладу на якую-небудзь суседскую мову?

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

# ПАКУТНАЯ СЦЯЖЫНА ДА ПРАЎДЫ

Мы пакрысе выслабаняемся ад звыклых догмаў і паняццяў, па-новаму асэнсоўваем шмат якія падзеі мінулага, у значнасці і вартасці якіх яшчэ нядаўна не сумняваліся. У гэтай пераацэнцы часам не абыходзіцца і без крайнасцяў, сутыкаюцца розныя погляды і меркаванні. Але ў адным мы адзіныя — шлях да праўды немагчымы без поўнага і ўсебаковага выкрыцця сталінізму. Сталінізм — гэта цэлая сістэма насілля і гвалту над чалавекам, а сістэму адразу не разбурыш, падмурак у яе трывалы. Рабіць жа гэта неабходна і як мага хутчэй, інакш не можа быць гаворкі аб прававой дзяржаве, у якой не будзе беззаконня, гвалту і прымусу.

А між тым... Доўгі, у некалькі дзесяткаў прозвішчаў спіс. Спіс тых, каго па розных прычынах адпаведныя органы прымусова накіравалі на «лячэнне». Незалежная ж экспертыза прызнала іх здаровымі. Прычына адна: тое, што гаварылі і рабілі яны, «некаму» не падабалася. І самае ўражальнае: спісы гэтыя адносяцца не да трыццатых ці, скажам, пяцідзесятых гадоў, а да пачатку перыяду галоснасці.

Спісы гэтыя невыпадкова трапілі на выстаўку плакатаў, дакументаў, «рэпрэсіраваных» кніг, твораў мастакоў, якая



напярэдадні 30 кастрычніка — дня палітзняволеных у СССР— працавала ў фае Палаца культуры прафсаюзаў у Мінску. Гарадское аддзяленне Беларускага фонду культуры сумесна з палацам арганізавалі і правялі тут жальбіны — дабрачыннае мерапрыемства, прысвечанае памяці ахвяр рэпрэсій у нашай краіне. Прыйшлі дзеці і ўнукі тых, хто загінуў у лагерах і на этапах, нямногія жывыя вязні, што выстаялі назло ўсім смярцям.

На стэндах, пад шклом, кнігі. Шматлікія выданні Я. Лёсіка; «Руднянскі пастушок», «Пажары», «Сустрэчы» Ц. Зарэчнага; «Лес цёмны», «Пустазелле», «Кавалкі шчасця» М. Ільінскага; «Любоў» У. Кандраценкі, «Песні выгнання» Ц. Лебяды, «Адбітае жыццё» А. Навіны... Яшчэ нядаўна іх нельга было заказаць у Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна, адкуль трапілі яны ў гэтую экспазіцыю. Забаранялася ўпамінаць аўтараў у друку.

На чарговым стэндзе — пажоўклыя дакументы. Розныя прозвішчы, а людзі — родныя. Сям'я пісьменніцы Ядвігі Бяганскай. Яе бацька, муж, сваякі. У жывых засталася яна адна....

Выразкі з газет. Асабліва шмат публікацый з чэрвеньскай раённай газеты «Уперад». Рубрыка «Курапаты Чэрвеньшчыны». Яна ў газеце з'яўлялася, знікала, цяпер зноў існуе. Нямала нерваў каштавала гэта яе вядучаму У. Дарагужу. Расказвае Уладзімір Рыгоравіч, як забаранялі яму абнародаваць факты масавых пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій на Чэрвеньшчыне. Не сорак, не дзесяць гадоў назад забаранялі, а цяпер, у час перабудовы! Не, не адпускае ад сябе сталінізм...

Неаднаразовыя папярэджанні атрымлівала і Я. Урублеўская-Ягорава, якая прайшла праз само пекла. Што такое сталінскае правасуддзе, зведала на поўніцу ў пасляваенны ўжо час. А яшчэ ў 1937 годзе, дзяўчынай, чатырнаццаць гадоў усяго было, з'ўлялася сувязной у час правядзення рабочых стачак і забастовак. Перад вайной стала камсамолкай. Прыйшлі фашысты — займалася падпольнай дзейнасцю, трапіла ў турму. «У той самай камеры, у якой знаходзіўся перад гэтым Муса Джаліль, апынулася, — прыгадвае Я. Урублеўская-Ягорава. — Хто ён, канечне, пазней даведалася». У памятным сорак пятым была вызвалена савецкімі воінамі. Але «Смерш» не драмаў. Яму было відней, хто вораг, а хто сябар. Арыштавалі Яўгенію Дзмітрыеўну «свае», усяго 24 дні пабыла на волі. Пачаліся новыя пакуты, новыя катаванні. Атрымала па «славутым» 58 артыкуле дзесяць гадоў з канфіскацыяй маёмасці. А якая маёмасць у дзяўчыны, што вырвалася з гітлераўскіх кіпцюроў? Вызвалілася Я. Урублеўская-Ягорава толькі 27 студзеня 1955 года.

Эрнест Хашкоўскі ў лагерах правёў яшчэ больш — ажно семнаццаць гадоў. Абвінавачванне традыцыйнае— шпіянаж, падрыхтоўка ўзброенага паўстання, шкодніцтва. Увесь час чакала яго жонка Марыя Васільеўна. Дачакалася і яго самога, і ягонай рэабілітацыі.

Па чым фунт ліха,добра зведаў і Васіль Супрун. Пра яго лёс «ЛіМ» ужо расказваў, змяшчаў і асобныя творы паэта, у тым ліку і тыя, што пісаліся ў лагерах, за кратамі.

Сповядзі... Балючыя да слёз у вачах, пакутлівыя да спазмаў у горле.

Найпершая задача сёння — вярнуць людзям веру ў праўду, пераканаць вязняў, сталінскіх і нядаўніх, што звароту назад няма і быць не можа. А дзеля гэтага неабходна ведаць і катаў. Не для таго, каб помсціць, а каб судзіць іх па маральных законах.

Прадстаўнік «Мартыралога Беларусі» А. Лукашук зачытаў прозвішчы супрацоўнікаў органаў НКУС трыццатых гадоў, якія ўдалося яму адшукаць нягледзячы на ўсе цяжкасці і перашкоды.

«Бумеранг жорсткасці» — так назваў сваю кнігу пра гады сталінізму, якая выйдзе ў выдавецтве «Беларусь», рэдактар Беларускага тэлебачання А. Майсеня. Назва трапная. Многія з тых, хто арыштоўваў, садзіў у картэры, расстрэльваў, неўзабаве сам паўтараў лёс ахвяр. Паспрабаваць зазірнуць у псіхалогію забойцаў, хоць неяк растлумачыць іх учынкі — таксама крок да праўды. З выступлення А. Майсені паўсталі малавядомыя факты з дзейнасці Цанавы, Бермана, іншых катаў беларускага народа.

— Імёны гэтых і іншых катаў, — як бы прадоўжыў гэтыя думкі прадстаўнік «Мартыралога Беларусі» М. Ткачоў, — мы называем сёння не для таго, каб помсціць іх дзецям і ўнукам. Тым больш не патрабуем мы новых працэсаў. Хопіць крыві і людскога гора. Называючы імёны забойцаў і іх памагатых, мы ганьбім таталітарны рэжым, які нарадзіў гэтыя працэсы. Нельга дапусціць, каб паўтарыліся новыя Курапаты і генацыд супраць уласнага народа.

Старшыня праўлення Мінскага гарадскога аддзялення фонду культуры, рэктар Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута В. Шаранговіч, адкрываючы жальбіны, зазначыў, што на працягу дзесяцігоддзяў у нашай краіне чалавека выхоўвалі рабом. Усе мы дайшлі да душэўнага запусцення, а гэта таксама вынік духоўнага і фізічнага генацыду. Страшна робіцца, што і сёння знаходзіцца нямала тых, хто гатовы забыць жахлівае сталінскае мінулае. Ці не таму, што людзі зашмат думаюць аб адным хлебе надзённым, грамадская вастрыня Курапат і сталінскага генацыду пачынае губляць ранейшую вастрыню? Шлях да праўды доўгі і пакутлівы. Стэрэатып мыслення прывёў і да таго, што пакуль што не даў жаданых вынікаў і конкурс на праект помніка ахвярам Курапатаў. Неабходна як мага хутчэй пераадолець інертнасць мыслення. У Курапатах, падкрэсліў В. Шаранговіч, павінен быць не проста помнік. Курапаты — могільнік безыменны. Хто там ляжыць, мы, хутчэй за ўсё, ніколі не даведаемся. Трэба стварыць капліцу, браму памяці і алею пакутнікаў — помнік адухоўлены і помнік духоўны.

Паўзмрок фае, паўзмрок залы... Жалобна-тужлівая музыка, трапяткое полымя свечак, што хістаецца ад людскога дыхання. На сцэне ж — вужакамі звіваюцца целы. Не відаць твараў, позіркаў. І раптам з масы прамень выхоплівае юнака. Ён вырываецца з гэтай пасткі і зноў трапляе туды. Быў чалавек і няма чалавека.

Ёсць толькі памяць, наша агульная памяць. Яна здатна прыўзняць заслону над небыццём.

Гэта і засведчылі сёлетнія жальбіны.

**НАШ КАР.**

Уладзімір АРЛОЎ

# Адзін у трох іпастасях

## Нататкі няўдзячнага вучня

**ПАЧНУ з запозненага шкадавання.**

**Лёсу было заўгодна, каб аднаго разу мы засталіся сам-насам на цэлыя паўтары гадзіны. Здарылася гэта на пачатку 70-х гадоў у ліфце, што зламаўся акурат паміж пятым і шостым паверхамі галоўнага корпуса нашай alma mater, дзе месціцца родны гістарычны факультэт. Якое інтэрв'ю я ўзяў бы ў свайго візаві, каб той выпадак мог паўтарыцца! А тады... Тады, не ацаніўшы гістарычнасці гэтых хвілін, я замест інтэрв'ю з усёй легкадумнасцю інфантыльнага дваццацігадовага бэйбуса чытаў зборнік фантастычных апавяданняў Рэя Брэдберы.**

**Зрэшты, дзеля ісціны трэба зазначыць, што, апрача інфантыльнасці, тут не апошнюю ролю адыграла і франдзёрства. За колькі дзён да сустрэчы ў ліфце ў нас на факультэце адбыўся гэтак званы ленінскі залік «Рашэнні XXIV з'езда КПСС — у жыццё!», дзе высветлілася, што маімі ўлюбёнымі пісьменнікамі былі тады Рэй Брэдберы і Роберт Шэклі. Уражаная такімі неартадаксальнымі літаратурнымі сімпатыямі, да таго ж выказанымі па-беларуску (на той час з Беларускага дзяржаўнага універсітэта паўсюль, апрача філфака, беларускую мову ўжо даўно і паспяхова выкаранілі), камісія з прадстаўнікоў партбюро і камітэта камсамола вырашыла, што дапамагчы ў такім разе можа толькі актыўнае чытанне грамадска-палітычнай літаратуры і абавязковая падпіска на папулярны часопіс «Комсомольская жизнь».**

**Папярэдні абзац — толькі штрых да партрэта таго часу і ніякім чынам не спроба самаапраўдання. У зламаным ліфце я моўчкі праседзеў паўтары гадзіны з прафесарам Лаўрэнціем Абэцэдарскім. Ці даруе мне калі-небудзь такую злачынную непрадбачлівасць муза гісторыі Кліо? Са сціплаю надзеяю заслужыць яе дараванне і бяруся за гэтыя нататкі. Тым больш, што імя іх героя апошнім часам усё часцей мільгае ў друку, гучыць з тэлеэкранаў і даносіцца з радыёпрымальнікаў. Аднак пры ўсім пры тым ці шмат мы ведаем пра чалавека, які два дзесяцігоддзі, па сутнасці, быў заканадаўцам у гісторыі Беларусі і якому ў гэтай гісторыі, бясспрэчна, трэба вызначыць адпаведнае месца?**

**З энцыклапедый можна даведацца небагата. Нарадзіўся ў 1916 годзе ў Горках. Скончыў гістарычны факультэт БДУ. З 1950 да 1958 года ўзначальваў там кафедру гісторыі СССР, з 1958 да 1975 — гісторыі БССР. Доктар гістарычных навук. Член-карэспандэнт Акадэміі педагагічных навук СССР. Дапытліваму юнаку, які палезе ў старыя падшыўкі, сярод трасучых фраз пра «глыбокае валоданне марксісцкай метадалогіяй», «камсамольскі гарт і жыццё на крайняй мяжы намаганняў» і іншага слоўнага шалупіння, можа, пашчасціць знайсці і яшчэ сякія-такія драбніцы. Напрыклад, высветліць, што дзейнасць Л. Абэцэдарскага «цесна звязана з Беларускім дзяржаўным універсітэтам з 1937 г.» («Звязда», 8 ліпеня 1975 г.). Або з замілаваннем прачытаць, як пачыналася ў Оршы, яшчэ да універсітэцкай вучобы, працоўнае жыццё будучага светача нашай гістарычнай навукі: «Які гэта быў палымяны важак піянераў, завадатар усіх карысных спраў піянерыі 30-х гадоў!» («Народная асвета», 1976 г., № 7.).**

**Абэцэдарскі быў шматгранна́й асобаю. Адданыя вучні і паслядоўнікі Лаўрэнція Сямёнавіча нязменна называлі яго не толькі вялікім вучоным-даследчыкам, але яшчэ і выдатным педагогам, грамадскім дзеячам. Так бы мовіць, адзіным у трох іпастасях.**

### 1.

**Як даследчыку Абэцэдарскаму Л. С. уласцівы навуковая добрасумленнасць, смеласць у пастаноўцы і вырашэнні складанейшых навуковых праблем. Непрымірымы да малейшай фальсіфікацыі гісторыі беларускага народа, Абэцэдарскі ў кожнае са сваіх даследаванняў уносіць бальшавіцкую страснасць і партыйную прынцыповасць.**

**З газет.**

Чалавек неабазнаны, выцягнуўшы ў бібліяграфічным каталозе скрыначку з адпаведнымі літарамі, будзе ўражаны колькасцю картак з прозвішчам Абэцэдарскі. Праўда, хутка высвіцца, што яго пяру належаць толькі тры працы, якія можна аднесці да навуковых, — «Барацьба ўкраінскага і беларускага народаў за ўз'яднанне з Расіяй у сярэдзіне XVII века», «Белорусы в Москве XVII в.» і «Белоруссия и Россия. Очерки русско-белорусских связей второй половины XV—XVII вв.». Усё астатняе — бясконцыя перавыданні напісанага ім у сааўтарстве школьнага падручніка па гісторыі БССР.

У трох вышэйназваных кніжках, асабліва ў другой і трэцяй, сабраны каштоўныя гістарычныя матэрыялы, у прыватнасці, пра дзейнасць у Маскоўіі беларускіх перасяленцаў, якія прынеслі з сабой невядомыя рускім мастацкія прыёмы, перадавую тэхналогію шматлікіх рамёстваў, якія аздобілі сваёй разьбой Каломенскі палац цара Аляксея Міхайлавіча і Смаленскі сабор былога Новадзявочага манастыра, пакінулі шэдэўры ў Збройнай, Залатой і Срэбнай палатах, друкавалі кнігі, склалі трупу першага ў Расіі прыдворнага тэатра. Праўда, Абэцэдарскі зазвычай маўчыць, што ў мностве выпадкаў беларусы траплялі ў Маскоўскую дзяржаву зусім не па сваёй волі, а прыкладна так, як 11 060 сялян, якіх у 1563 годзе пагналі па зімовых дарогах на ўсход з захопленага Іванам Грозным Полацка пасля ўчыненай там крывавай разні.

Доктар гістарычных навук А. Грыцкевіч, якому калісьці давялося слухаць лекцыі Абэцэдарскага на вячэрнім аддзяленні БДУ, прыгадвае, што той любіў паўтараць: «Гісторык павінен умець знаходзіць факты для сваёй канцэпцыі». Па першай частцы гэтай сентэнцыі прэтэнзій да Лаўрэнція Сямёнавіча, бадай, няма. Але вучонага вызначае не ўменне збіраць і падбіраць факты, а якраз канцэпцыя. Ці меў Абэцэдарскі сваю канцэпцыю гісторыі Беларусі? Адказ на гэтае пытанне дае яго выдадзеная ў 1968 годзе брашура пад не надта пісьменнаю назваю «У святле неабвержных фактаў». (Хіба не ўсе факты — неабвержныя? Зрэшты, калі згадаць сталінскае «прынцыпы важней за факты», — не ўсе).

«Ворагі міру і прагрэсу — ідэолагі імперыялізму ўсімі сродкамі імкнуцца падарваць веру працоўных у ідэі навуковага камунізму, у непазбежнасць яго перамогі», — палохае Абэцэдарскі ў першых абзацах. Замежных даследчыкаў гісторыі Беларусі, якім збіраецца даць адпор, ён чамусьці не падаючы ніводнага прозвішча, называе «былымі гітлераўскімі паслугачамі» або, у лепшым разе, «наймітамі амерыканскіх і заходнегерманскіх імперыялістаў», а іх працы — «беспадстаўнымі паклёпніцкімі выдумкамі» і «зламыснай хлуснёй». Знаёмая тэрміналогія.

У брашуры, якую нас, студэнтаў гістарычнага факультэта, змушалі штудзіраваць і канспектаваць ледзь не нароўні з працамі класікаў, робіцца спроба насуперак сапраўды неабвержным фактам давесці, што беларусы да 1919 года не мелі сваёй дзяржаўнасці. Адмаўляючы беларусам у праве на дзяржаўнасць у Вялікім княстве Літоўскім, якое пачало складацца на беларускіх землях, большую частку насельніцтва якога ў другой палове XVI — канцы XVII стагоддзя складалі беларусы, дзяржаўнай моваю якога чатырыста гадоў была беларуская, Абэцэдарскі салідарызаваўся з нацыяналістычнымі польскімі і літоўскімі гісторыкамі, якія прыніжалі нацыянальную годнасць беларускага народа акурат такім самым чынам.

Шмат намаганняў паклаў Абэцэдарскі і на тое, каб выкрыць цяжкія грахі уніяцтва, якое «фальсіфікатары» насмельваюцца называць народнай рэлігіяй беларусаў. Тут няма магчымасці спыніцца на гэтым прынцыповым пытанні больш падрабязна, адзначым толькі, што уніяты (у адрозненне ад католікаў заходняга абраду і праваслаўных) карысталіся беларускай моваю ў набажэнстве і кнігадрукаванні і што, паводле падлікаў А. Грыцкевіча, да уніятаў у канцы XVIII стагоддзя належала больш за тры чвэрці насельніцтва Беларусі. У раздзеле «Беларусы і Расія» Абэцэдарскі старанна падкрэслівае станоўчыя аспекты «уз'яднання» Беларусі з Расіяй у канцы XVIII стагоддзя. Бяру гэтае слова ў двукоссе, бо да таго часу Беларусь у складзе Расійскай імперыі ніколі не была, а значыцца, трэба казаць пра далучэнне, а дакладней — пра захоп.

Аб «навуковай добрасумленнасці» аўтара брашуры і ягонай «непрымірымасці да малейшай фальсіфікацыі гісторыі беларускага народа» красамоўна сведчыць і такі прыклад. «Пасля ўз'яднання з Расіяй, — пераконвае нас Лаўрэнцій Сямёнавіч, — у Беларусі быў знішчаны рэлігійны і аслаблены нацыянальны прыгнёт». Аднак пра якую ліквідацыю рэлігійнага прыгнёту можна казаць, калі толькі 6,5 працэнта жыхароў Беларусі былі тады праваслаўнымі, а абсалютную большасць беларусаў царскі ўрад з-пад палкі, з крывёю і рэпрэсіямі пачаў пераганяць у праваслаўе, аб чым з абурэннем пісаў «Колокол» Герцэна? Што да аслаблення нацыянальнага прыгнёту, дык гэта таксама міф. Большасць польскіх і апалячаных феадалаў прысягнулі Кацярыне II і захавалі свае ўладанні і прыгонных, да таго ж царыца, а затым яе сын Павел I падаравалі рускім памешчыкам у захопленых беларускіх губернях каля мільёна сялян — чвэрць насельніцтва. Яшчэ адна атрыманая ад «освободителей-воссоединителей» выгода — рэкруцкія наборы (спачатку служба была пажыццёвая, з 1793 г. — 25 гадоў, а з 1834 — 20), якіх Беларусь ніколі не ведала, бо Вялікае княства Літоўскае мела прафесійнае войска. Не мог масціты прафесар не ведаць і таго, што падаткі ў беларускіх губернях царская адміністрацыя, у адрозненне ад Расіі, збірала не ў асігнацыях, а ў звонкай манеце. Па тагачасным курсе, 100 рублёў асігнацыямі былі роўныя 22 срэбным рублям. Такім чынам, падаткі на Беларусі былі ў 4—5 разоў вышэйшыя.

Адметна, што на 110 старонках сваёй брашуры Абэцэдарскі нідзе (калі не лічыць дзвюх спасылак, датычных утварэння класавай дзяржавы ўвогуле) не спасылаецца на К. Маркса і Ф. Энгельса. А між тым класікі марксізму, асабліва Энгельс, глыбока вывучалі гісторыю Беларусі і пакінулі шэраг грунтоўных прац, дзе разглядалі беларусаў як самастойны народ, падкрэслівалі такую важную асаблівасць яго фарміравання, як адсутнасць 240-гадовага татара-мангольскага прыгнёту, выкрывалі захопніцкую палітыку Расіі ў дачыненні да суседніх краін і народаў. Спасылак на класікаў няма з вельмі простае прычыны: Абэцэдарскі разыходзіўся з імі ў ацэнцы практычна ўсіх прынцыповых праблем нашай гісторыі. Энгельс у «Знешняй палітыцы рускага царызму» і Маркс у працы «Сценька Разін» глядзелі на Вялікае княства Літоўскае як на славянскую дзяржаву. Энгельс адзначаў, што уніяты на Беларусі ў XVIII стагоддзі даўно звыкліся са сваім становішчам і ніякага рэлігійнага прыгнёту не адчувалі. Класікі марксізму, вядома, не лічылі «ўз'яднаннем» і вынік грабежніцкіх падзелаў Рэчы Паспалітай, якія Расія — як мы памятаем, жандар Еўропы — ажыццявіла разам з Прусіяй і Аўстрыяй.

Такім чынам, разгледжаная брашурка Абэцэдарскага — тыповы атрутны плод з узгадаванага сталіншчынай магутнага дрэва вульгарызатарскай псеўдагісторыі. На яго разложыстых галінах і цяпер спеюць плады і салодка пяюць птушкі. Прадстаўнікі гэтай «гісторыі» заўсёды служылі тым, хто пры ўладзе. Называючы сябе марксістамі, яны замоўчваюць непрыдатныя ім працы Маркса, Энгельса і Леніна. Яны цудоўна засвоілі зноў запанаванае ў 30-я гады (калі сталінскае кіраўніцтва вярнулася да імперскай палітыкі і ў дачыненні да народаў нашай краіны, і на міжнароднай арэне) імперскае мысленне з адпаведным падыходам да гістарычных з'яў, паводле якога ўся знешняя палітыка рускіх цароў, як і сто гадоў таму, абвяшчаецца прагрэсіўнай, захопы называюцца «ўз'яднаннямі» ці «добраахвотнымі ўваходжаннямі», праваслаўе разглядаецца як нешта значна больш перадавое за каталіцызм, уніяцтва і любыя іншыя канфесіі... Не, невыпадкова «неабвержныя факты» разам са «сваёй» канцэпцыяй зноў тэрмінова спатрэбіліся, калі колькі гадоў таму пачуліся першыя незадушаныя галасы пра неабходнасць вяртання народу яго сапраўднай гісторыі. У 1987 годзе фальсіфікатарская пісаніна Абэцэдарскага, якая зневажае наш нацыянальны гонар, была ў кампаніі з іншымі творамі прыблізна такога самага гатунку тэрмінова перавыдадзена ў сумна вядомым зборніку пад двухсэнсоўнаю назваю «Дары данайцаў». (Памятаеце, як данайцы падаравалі абаронцам Троі свайго драўлянага каня?)

З такой самай «страснасцю» і «прынцыповасцю» напісаны і школьны падручнік па гісторыі БССР, які практычна ў нязменным выглядзе (калі не лічыць апошніх параграфаў, дзе ўслаўляюцца рашэнні чарговых гістарычных з'ездаў і новыя заваёвы развітога сацыялізму) вытрымаў больш як дзесятак выданняў і па якім да мінулага года вучыліся нашы дзеці. Выступаючы на IX з'ездзе пісьменнікаў Беларусі, наш вядомы празаік У. Дамашэвіч, трапна назваў гэты ўбогі, нецікавы і хлуслівы падручнік дапаможнікам па выхаванні антыпатрыётаў.

Камусьці здаецца, што гучыць занадта катэгарычна? Тады разгорнем адзінаццатае выданне «Гісторыі БССР» і зазірнём, напрыклад, у храналагічную табліцу з абавязковымі для запамінання датамі. Дарэмна мы будзем шукаць тут гады першых летапісных згадак пра Полацк, Віцебск, Тураў, што адлічваюць ужо другое тысячагоддзе сваёй гісторыі. Марнымі будуць пошукі даты Грунвальдскае бітвы, пасля якой пяць стагоддзяў не ступала на беларускія землі нага ўзброенага немца. Не знодзем даты не толькі паўстання Тадэвуша Касцюшкі, але нават нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863 — 1864 гадоў. Вядома, школьнікі найперш павінны былі запомніць іншыя даты: прыняцця Канстытуцыі БССР 1937 года, усіх пяцігодак, шчодрых узнагароджванняў брэжнеўскай «эпохі»... На перыяд з 1917 года прыпадае 33 даты, на папярэдняе тысячагоддзе — 27...

Мала гэтых аргументаў? Тады паспрабуйма з таго падручніка даведацца хоць штонебудзь пра Рагвалода і Рагнеду, Ефрасінню Полацкую і Давыда Гарадзенскага, пра Вітаўта Вялікага і Міколу Гусоўскага, пра Льва Сапегу, Канстанціна Астрожскага, Тадэвуша Касцюшку, Антона Трусава, Івана Луцкевіча, пра першых беларускіх акадэмікаў... Затое школьнік уведае, што «суцэльная калектывізацыя стварыла неабходныя ўмовы для ліквідацыі апошняга і самага шматлікага эксплуатататарскага класа — кулацтва. Раскулачванне ажыццяўлялі самі бядняцка-серадняцкія масы». Як адбывалася гэтая народная драма, якую сёй-той дагэтуль абвяшчае перамогай, найлепей паказаў у сваёй апошняй аповесці «Аблава» Васіль Быкаў. Жорны сталінскага генацыду знішчылі каля двух мільёнаў беларусаў, а аўтары падручніка прапануюць школьніку параграф пра «бліскучы росквіт культуры беларускага народа» ў 30-я гады, «які з'явіўся вынікам паслядоўнага ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі Камуністычнай партыі». Гартаеш старонкі і міжволі ловіш сябе на чаканні: вось зараз лагодна глянуць на цябе добрыя і ясныя вочы бацькі народаў. А яшчэ згадваецца плакат з нядаўняй выставы: фаліянт з назваю «Гісторыя Беларусі» і пячатка на ім: «Совершенно секретно».

У 1950-ым, калі трыццацічатырохгадовы Л. Абэцэдарскі ўжо загадваў кафедрай, беларускі гісторык М. Улашчык ужо трэці раз у сваім жыцці глядзеў на свет праз турэмныя краты і калючы лагерны дрот. Латарэя? Возьмем іншы час — той, калі брывастаму правадыру ледзь не штотыдзень чаплялі новую ўзнагароду. Наклейваюцца ярлыкі на М. Ермаловіча, выключаюць з ліку аўтараў кнігі «З глыбіні вякоў» В. Грыцкевіча, цяжка дыхаць А. Грыцкевічу, М. Ткачову, Г. Каханоўскаму, іншым сумленным гісторыкам. Абэцэдарскі піша закрытыя рэцэнзіі і водгукі для ЦК. Зноў латарэя?

Сістэма ніколі не любіла сачыненняў на вольныя тэмы. Яна любіць дыктоўкі. Абэцэдарскі не рабіў у гэтых дыктоўках памылак.

У аўтара славутых «Непрычасаных думак» Станіслава Ежы Леца ёсць афарызм: «Авалодаў навукай, але не апладатварыў яе». У дадзеным выпадку неабходна дадаць: не толькі не апладатварыў, але і заразіў брыдкай хваробаю, якая пакуль што слаба паддаецца лячэнню.

На заканчэнне знаёмства з першай іпастассю нашага героя зробім адну агаворку. Не трэба ствараць у сваім уяўленні вобраз нейкага Дон Кіхота-наадварот і спісваць усе, далікатна кажучы, грахі нашай гістарычнай навукі на Абэцэдарскага. Ваяўніча наставіўшы дзіды, прышпорваючы сваіх расінантаў, у атаку на спробы аднавіць гістарычную праўду побач з ім імчаліся іншыя. М. Ермаловіч успамінае, як колішні дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР І. Ігнаценка ў 1974 годзе бэсціў яго за «спробу аднавіць даўно адкінутую нашай савецкай гістарычнай навукай тэорыю аб беларускай дзяржаўнасці ў Вялікім княстве Літоўскім», а доктар гістарычных навук З. Капыскі на пасяджэнні Вучонага савета таго ж інстытута патрабаваў звярнуцца ў ЦК з мэтаю забараніць Ермаловічу друкавацца. («Студэнцкая думка», 1989 г., № 4). Спіс «рыцараў» можна доўжыць, але гэтым разам гаворка пра Л. Абэцэдарскага.

## 2.

**Усе свае веды, сілы і энергію, свой вялікі вопыт і выдатны талент Абэцэдарскі Л. С. аддае справе навучання і выхавання маладога пакалення, пакалення будаўнікоў камунізму.**

**З газет.**

**Да гэтага эпіграфа варта далучыць вытрымку з таго самага газетнага артыкула: «З 1949 г. Абэцэдарскі чытае на гістарычным факультэце БДУ распрацаваны ім курс гісторыі БССР, спецкурсы, кіруе спецсемінарамі. Яго глыбокія па зместу, арыгінальныя па форме лекцыі выклікаюць у студэнтаў выключную цікавасць, прымушаюць іх думаць, імкнуцца да творчасці...»**

**Сёе-тое з гэтага — святая праўда. Ну, скажам, наконт арыгінальнасці. Хіба не арыгінальна для доктара гістарычных навук называць са сваёй прафесарскай кафедры асветніцу XII стагоддзя Ефрасінню Полацкую цемрашалкаю, а нацыянальнага героя Беларусі Кастуся Каліноўскага — нацыянальным ідалам? Не даспадобы былі Лаўрэнцію Сямёнавічу і «нацдэмаўцы тыпу Язэпа Лёсіка» (рэпрэсіраванага акадэміка, аўтара падручнікаў, па якіх вучыліся пісаць мільёны беларусаў), якія ў часы «так званай беларусізацыі» мелі, маўляў, нахабства адвечныя і зразумелыя беларусам словы замяняць на штучныя і няўцямныя. (Напрыклад, адвечнае беларускае слова «перпендыкуляр — на «простастаўнік».)**

**Была арыгінальнасць і іншага гатунку. Памятаю, як трымцелі мае слабанервовыя аднакурсніцы, калі, выставіўшы наперад бараду і паблісківаючы бялкамі вачэй, маэстра імкліва заходзіў у аўдыторыю і пачынаў лекцыю. Любога з нас ён мог падняць з месца раптоўным пытаннем. Сам па сабе гэты педагагічны прыём пярэчанняў не выклікаў, вось толькі няправільны адказ (нярэдка проста ад боязі і разгубленасці) прафесар зазвычай каменціраваў зняважлівай рэплікай, а то і парадаю памыць вушы. У свой час на гістарычным факультэце вучыўся сын «беларускага» Берыі — Лаўрэнція Цанавы; кажуць, нашчадак ката заяўляўся на экзамены з аўчаркаю і, навязаўшы яе побач са сталом экзаменатара, пачынаў рыхтавацца да адказу. Цяпер ужо цяжка высветліць, ці здаваў Цанава-малодшы іспыты Абэцэдарскаму і, калі здаваў, як той трымаўся ў кампаніі ваўкарэза. Затое сотні выпускнікоў БДУ памятаюць яго паводзіны на экзаменах у 70-я гады. Напрыклад — букет ружаў, купленых зімою на дарагія студэнцкія рублі і на заліку выкінутых прафесарам у вакно на той падставе, што ён — «не карова». А колькі зняваг мусілі выслухоўваць тыя, хто адважыўся запусціць бараду! Вырашальную ролю ў атрыманні заліка ці добрай адзнакі — а значыць, і ў атрыманні стыпендыі — вельмі часта адыгрывала веданне, якую руку падняў Уладзімір Ільіч на помніку каля Дома ўрада («кароннае» пытанне выдатнага педагога) або гатоўнасць студэнта збегаць у краму па гарбату з лімонамі ці задаволіць якую іншую прыхамаць выхавацеля маладога пакалення будаўнікоў камунізму. Такая арыгінальнасць у гады гэтак званага застою была досыць тыповаю — той, хто аддана служыў уладзе, у якасці ўзнагароды меў і права беспакарана паздзекавацца з залежных ад яго людзей. Абэцэдарскі карыстаўся гэтым правам, якое мала чым адрознівалася ад права Цанавы-малодшага навязваць свайго ваўкарэза, з вялікай ахвотаю.**

**Быў перыяд, калі ён чытаў лекцыі і прымаў экзамены па-беларуску. Нам тыя часіны здаваліся ўжо амаль што міфалагічнымі. Студэнт-гісторык, які насмельваўся ў наш час адказваць шаноўнаму Лаўрэнцію Сямёнавічу на роднай мове, зазвычай чуў з'едліва-пагрозлівае: «Так вы хотите сказать, что знаете белорусский язык?», пасля чаго ніхто не мог гарантаваць, што рызыкоўная спроба скончыцца паспяхова.**

**Ну так, мы атрымалі на яго лекцыях пэўныя гістарычныя звесткі, але сапраўднае мінулае Беларусі спасцігалі не дзякуючы, а насуперак свайму педагогу — найперш праз кнігі Уладзіміра Караткевіча, якога Абэцэдарскі так паважаў, што нават не ўключыў у сваім падручніку ў пералік вядомых беларускіх пісьменнікаў.**

**Дык ці быў ён выдатным педагогам, «які падрыхтаваў буйны атрад высокакваліфікаваных спецыялістаў і вучоных»? Мяркуйце самі. Вось як павучалі даследчыка беларускай культуры сярэдневечча М. Прашковіча аспіранты БДУ В. Люкевіч і Я. Трашчонак у артыкуле пад характэрнаю назваю «Истине вопреки» («Советская Белоруссия», 22 лютага 1966 г.): «Вопреки истине Н. Прашкович пытается доказать, что... Великое княжество Литовское было белорусско-украинским государством». (Цяпер правы беларусаў на дзяржаўнасць у Вялікім княстве прызнаў на старонках «Звязды» нават вядомы сваімі аглабельнымі рэцэнзіямі спецыяліст па этнаграфіі савецкага перыяду, а заадно і па ўсіх іншых гістарычных перыядах і праблемах А. Залескі.) І далей: «Н. Прашкович с апломбом поучает, что уния имела и положительное значение... могла бы содействовать выработке национального сознания, патриотизма, борьбе за народный язык». Сёння мы можам толькі ўдакладніць выснову, якую Прашковіч у свой час не меў магчымасці сфармуляваць больш канкрэтна: не «могла бы содействовать», а — актыўна садзейнічала.**

**Умеў, умеў Лаўрэнцій Сямёнавіч знайсці і выхаваць сабе паплечнікаў і паслядоўнікаў. Адкрыем маленькую таямніцу: эпіграфы да раздзелаў гэтых нататак належаць пяру М. Баранавай і Н. Паўлавай — сааўтараў Абэцэдарскага па школьнай «Гісторыі БССР».**

## 3.

**Сваё прызванне Абэцэдарскі Л. С. разумее у самым шырокім сэнсе — ён не толькі вучоны, педагог, але і актыўны грамадскі дзеяч.**

**З газет.**

Як мы памятаем, яго жыццё і дзейнасць звязаны з БДУ не з якога-небудзь іншага, а менавіта з 1937 года. Напэўна, гэта выпадковае супадзенне. Праўда, ёсць у грамадскай дзейнасці Абэцэдарскага адзін штрых, які ў маёй памяці адклаўся недзе побач з той страшнай датай. Нябожчык М. Улашчык, доктар гістарычных навук, вядомы не толькі ў нашай краіне археограф, публікатар і каментатар беларуска-літоўскіх летапісаў, апавядаў мне, як, даведаўшыся пра яго намер пераехаць на працу з Масквы ў Мінск, Абэцэдарскі даверна папярэдзіў: «Памятай, Мікола, дасье на цябе ляжыць у мяне ў сейфе». Факт могуць пацвердзіць блізкія Мікалая Мікалаевіча. Сястра вучонага В. Улашчык казала пра гэта ў Доме літаратара на прэм'еры пасмяротнай братавай кнігі «Была такая вёска».

Найбольшае разгарненне грамадская дзейнасць Абэцэдарскага набыла ў першай палове 70-х гадоў. Для Беларусі, як і для нашай суседкі Украіны, гэтыя гады, апрача ўсяго іншага, былі часам палявання на ведзьмаў. Адпаведная служба, абапіраючыся на шырокі, так бы мовіць, няштатны актыў, заўзята шукала, выкрывала, ляпіла ярлыкі і «обезвреживала» тых, хто быў супраць брэжнеўска-суслаўскіх тэорый паскоранага зліцця нацый і стварэння «новай этнічнай супольнасці». Водгулле гэтага змагання даносілася і да нас, тагачасных студэнтаў. «Ветэраны вайны і працы» бэсцілі ў газетах аповесць Вольгі Іпатавай «Прадслава», прысвечаную Ефрасінні Полацкай. Дасталося і Эрнесту Ялугіну, які выдаў кнігу «Мсціслаўцаў посах». Надоўга знікалі ўзятыя пачытаць сім-тым з факультэцкіх камсамольскіх актывістаў нумары бяскрыўднага, але беларускамоўнага машынапіснага часопіса «Мілавіца», які мы з сябрамі пачалі выпускаць у 1974 годзе.

Адбываліся і падзеі больш трывожныя.

На адной сустрэчы з чытачамі давялося выслухаць кінутае беларускай інтэлігенцыі абвінавачанне: ніхто, маўляў, не выступаў у тыя гады супраць татальнага абалваньвання і падману, супраць дратавання мовы і гістарычнай памяці народа, ніхто за свае перакананні не пацярпеў, не развітаўся з цёплым крэслам.

Гэта няпраўда. Гадамі не друкавалі Уладзіміра Караткевіча. У Гародні білі вокны Васілю Быкаву. У 1972 годзе загінуў пры нявысветленых да канца абставінах мастак Лявон Баразна. У 1974-м у Мінску выкрылі «нацыяналістычную арганізацыю». Пачаліся выклікі, сходы, выключэнні з партыі. Шмат каму паказалі на дзверы. Навуковы супрацоўнік акадэмічнага Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору З. Пазняк мусіў перакваліфікавацца ў фатографы, кандыдат філалогіі М. Прашковіч — у грузчыкі. Кандыдат гістарычных навук археолаг М. Чарняўскі паўтара года грузіў у мастацка-вытворчым камбінаце цэмент, збіваў і грунтаваў шчыты пад наглядную агітацыю, з якіх абвешаны зоркамі і ордэнамі «верны ленінец» на кожным гарадскім скрыжаванні паведамляў нам: «Верной дорогой идёте, товарищи!» Толькі праз пяць гадоў Міхась Міхайлавіч упершыню ў жыцці выпадкова пабачыў чалавека, поплеч з якім каваў крамолу у «нацыяналістычным падполлі». Былы супрацоўнік выдавецтва «Універсітэцкае» Сцяпан Міско нядаўна расказаў мне, што тады, у красавіку 1974-га, яго дапытвалі пяць сутак без перапынку.

Цікава, што ў нас, у адрозненне ад Украіны, «нацыяналістаў» тады не саджалі. Думаю, у пэўных сферах існавала думка, што магчымасць нацыянальнага адраджэння на Беларусі ўжо канчаткова ліквідаваная, а таму дзейнасць «нацыяналістаў» не ўяўляе вялікай небяспекі. Сёй-той цяпер яўна шкадуе, што памыліўся: трэба было саджаць.

Але якое дачыненне мела да ўсяго гэтага — да ганенняў на інтэлігенцыю, пагромных рэцэнзій на літаратурныя творы — грамадская дзейнасць Абэцэдарскага? Калі не самае непасрэднае, дык, безумоўна, вялікае. Ён быў у той час, па сутнасці, прыдворным гісторыкам. Ужо згадвалася, што ён пісаў закрытыя рэцэнзіі і агляды для партыйнага кіраўніцтва. Ягоная думка магла вырашыць лёс кнігі, фільма. Вучоных-гуманітарыяў, якія прыносілі свае рукапісы ў выдавецтвы ці ў рэдакцыі, тады часта сустракалі пытаннем: «А як на гэта паглядзіць Абэцэдарскі?»

Постаць Абэцэдарскага адразу паўстае ўваччу, калі чытаеш матэрыялы XIII пленума ЦК КПБ (красавік 1974 г.), які разгледзеў пытанне «Аб далейшым павышэнні дзейнасці ідэйна-палітычнай работы ў святле рашэнняў XXIV з'езда КПСС». З даклада няцяжка зразумець, як меркавалася павышаць гэтую дзейснасць: «Перад наяўнасцю такіх маштабных задач асабліва вострымі становяцца пытанні партыйнай адказнасці вучонага, выразнасці яго светапоглядных, класава-палітычных пазіцый. Аб гэтым даводзіцца напамінаць у сувязі з тым, што ў некаторых публікацыях, у тым ліку аб народных паэмах «Энеіда навыварат» і «Тарас на Парнасе», у работах аб Ефрасінні Полацкай, Смятрыцкім, Зізаніі, праявіліся адгалоскі пазакласнага аб'ектывізму, ідэалізацыі асобных багасловаў, як выдатных асветнікаў». Затым ішла крытыка Аддзялення грамадскіх навук АН БССР, якое «санкцыянуе правядзенне мерапрыемстваў, не задумваючыся над іх магчымымі негатыўнымі вынікамі, як гэта мела месца з сімпозіумам, які намячаўся па праблеме этнагенезу беларусаў...» («Звязда», 30 красавіка 1974 г.). Цікава пашукаць адказ на пытанне: чаму так занепакоіў гэты сімпозіум шаноўнага П. М. Машэрава, які выступаў з дакладам? Якіх негатыўных вынікаў чакала кіраўніцтва рэспублікі ад навуковай размовы пра паходжанне беларусаў? (Сімпозіум, безумоўна, забаранілі.) І, дарэчы, якога Зізанія меў на ўвазе дакладчык, сцвярджаючы, што багаслоў не можа быць асветнікам? Зізаніяў жа было двое: пісьменнік-палеміст, прапаведнік Стафан і педагог, царкоўны дзеяч, перакладчык Лаўрэн. Дзейнасць абодвух багасловаў артадаксальная царква ацаніла высока: погляды Лаўрэна Зізанія былі абвешчаныя ерэтычнымі, а яго брат за выдадзены ў 1595 годзе ў Вільні «Катэхізіс» быў пазбаўлены духоўнага сану і адлучаны ад царквы. Зрэшты, пра недаравальна лёгкі багаж гістарычных ведаў шмат якіх высокапастаўленых асоб мы цудоўна ведаем. (На шчасце, сёння хоць ужо не трэба даводзіць ім, што Скарына і Будны не былі беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі — поступ відавочны!). Абэцэдарскі і кампанія карысталіся гэтай гістарычнай непісьменнасцю і, між іншым, — пэўна ж, незнарок — дыскрэдытавалі ў вачах інтэлігенцыі тых, хто чытаў падрыхтаваныя імі даклады.

Ці не назіраем мы нешта падобнае і цяпер?

Грамадская дзейнасць вучонага (а гісторыка і пагатоў) вызначаецца яго навуковай пазіцыяй. Калі слова «навуковыя» ў дадзеным выпадку вымагае прыдомку «анты», тое ж самае адбываецца і са словам «грамадская».

●

**Год смерці Л. С. Абэцэдарскага — 1975. Падпісаны на самым высокім узроўні некралог паведамляў: «Памёр вялікі вучоны, педагог, выдатны чалавек, чулы і добразычлівы таварыш, прынцыповы камуніст».**

**Пасля некалькіх маіх артыкулаў пра нашу гістарычную свядомасць (ці, дакладней, несвядомасць) са старонак рэспубліканскага друку пачуліся галасы апанентаў. Асабліва абураліся некаторыя чытачы «Настаўніцкай газеты». Аргументаў не хапала, а таму аўтара абвінавацілі ў «зневажанні памяці свайго настаўніка нябожчыка Л. С. Абэцэдарскага».**

**Пра нябожчыкаў — толькі добрае. Але мне бліжэй да душы парада, пакінутая старажытнымі рымлянамі: «Aut bene, aut veritas — Або добра, або — праўду».**

**Грамадскі прысуд такім, як Абэцэдарскі, вынес у сваім рамане «Гульня ў шкляныя перлы» Герман Гесэ: «Вучоны, які з трыбуны, з кафедры ці ў сваіх працах свядома абвяшчае няпраўду, свядома падтрымлівае ману і фальш, не толькі грашыць супраць галоўных арганічных законаў, ён яшчэ... нясе страшэнную шкоду свайму народу, ён забруджвае паветра і зямлю, ежу і ваду, атручвае мысленне і законы і падтрымлівае ўсе злыя сілы, якія пагражаюць знішчыць яго нацыю».**

*Напярэдадні падзеі*

# І «ВОСЕНЬ» БУДЗЕ!

## 20 лістапада ў рэспубліцы пачынаецца традыцыйны Усесаюзны фестываль мастацтваў

**«Непатрэбная ў нашым календары гэтая «пятая пара года», — даводзяць скептыкі. Але за гады свайго існавання «Беларуская музычная восень» настолькі паўплывала на музычны клімат у рэспубліцы, што прыхільнікі, якіх яшчэ не канчаткова страціла мастацтва, загадзя настройваюцца на яе прыход. І пытаюцца: «Хто прыедзе сёлета?»**

**Перапісваць у адказ фестывальную афішу, вядома, не будзем: больш за паўсотню салістаў, разнастайных ансамбляў, буйных выканаўчых калектываў удзельнічаюць у трохстах з лішкам запланаваных канцэртах і пакуль не падлічаных творчых сустрэчах. Сярод вядомых гасцей — Маскоўскі дзяржаўны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам П. Когана, Акадэмічная руская харавая капэла імя А. Юрлова, Малдаўскі аркестр народнай музыкі «Флуераш», дырыжор В. Дуброўскі са Смаленскім народным аркестрам, карацкі народны ансамбль танца «Мэнга», піяніст Д. Башкіраў, кампазітар А. Пятроў... Ёсць артысты з Грузіі, Украіны, Азербайджана, Сярэдняй Азіі; не ўдзельнічаюць толькі прыбалты.**

**Шырэй, чым у мінулыя гады, прадстаўлена беларускае мастацтва. Удзельнічаюць практычна ўсе філарманічныя калектывы, камерныя выканаўцы, музычныя тэатры. У Мінску адбудуцца канцэрт майстроў мастацтваў Беларусі, прысвечаны 500-годдзю Скарыны, канцэрт-прэзентацыя стыпендыятаў Усесаюзнага грамадскага дабрачыннага Цэнтра мастацтваў «Юныя таленты», дзе будуць іграць і мінскія школьнікі; дэбют створанага нядаўна Мінскага аркестра духавых інструментаў «Няміга» (мастацкі кіраўнік А. Берын), аўтарскі канцэрт кампазітара Г. Гарэлавай...**

**На традыцыйнай прэс-канферэнцыі мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Ю. Гільдзюк звярнуў увагу журналістаў на такую асаблівасць сёлетняга, 17-га фестывалю, як... адсутнасць у праграмах двух буйных нашых калектываў: Акадэмічнага сімфанічнага аркестра БССР і харавой капэлы імя Р. Шырмы. Як паведамляў ужо «ЛіМ», паводле кантракта яны павінны гастраляваць у гарадах Італіі, а тэрмін выступленняў прыпадае акурат на другую палову лістапада.**

**Удалай ім вандроўкі! Удачы і тым артыстам, што праз некалькі дзён выправяцца па маршрутах «Беларускай музычнай восені». Пакуль не зніклі людзі, якія цікавяцца мастацтвам, яно будзе жыць і напаўняць свежым зместам нават старыя фестывальныя схемы.**

**С. ВЕТКА.**

**Ці быў такі дыярыуш, няхай гадаюць будучыя даследчыкі. Прызнаюся, што знайсці гэты шэдэўр краснага пісьменства ім не давядзецца, бо ўвесь ён складаецца з асобных шматкоў паперы, на якіх запісана пачутае з вусных адказаў і вычытанае мною з філалагічных прац нашых студэнтаў. Але што ёсць такі Філон—чыстая праўда. Ён шматаблічны і ўсюдысны, прывабны і нехлямяжы, крыху прыпылены і заўсёды нахабны. І гэтыя запісы—праўдзівае сведчанне яго духоўнага развіцця.**

**Люба ТАРАСЮК.**

# З дыярыуша Філона Тутэйшага, студыёзуса з Менску

**(Філалагічныя фантазіі канца XX ст.)**

Вобразы, вобразы, вобразы... Яны займаюць галоўнае месца ў творы.

Можна з упэўненасцю сказаць, што гэтаму вершу ўласціва рыфма.

Метафарам надаюцца чалавечыя рысы.

Ранішні перыяд творчасці.

У. І. Ленін разлажыў па палічках усе прынцыпы літаратуры.

Фальклор пачаў развівацца, калі пачало складвацца геаграфічнае таварыства.

У народзе спрадвечна бытавалі легенды аб цяжкім жыцці свякрухі.

Былі легенды, якія расказвалі пра пахаджэнне войнаў за барацьбу свайго народа.

За стол на самае пачэснае месца садзяць куццю.

У жартоўных песнях часта ў вобразах людзей выступаюць жывёлы, напрыклад, у песні «Камар і муха».

У часы нападу туркаў паявіліся балады пра манголаў.

У казках існавала гіпербалізацыя адносін паміж бабай і дзедам.

Прыказка — гэта невялікі творчык.

Фальклор лічылі сумнай справай, таму што ў ім адсутнічаюць гумарыстычныя наяўнасці.

Перш чым збіраць фальклор, фалькларысты пасяляліся ў тых раёнах, дзе яны задумалі збіраць фальклор.

●

Я. Чачот з А. Міцкевічам вучыліся ў Навагрудскім этнаграфічным інстытуце.

Шэйн вельмі любіў песні і ствараў для іх ноты.

Федароўскі ўсю сваю творчую дзейнасць разлажыў па жанрах.

У старажытныя часы мова распаўсюджвалася ў рукапісах, хадзіла па руках.

Ефрасіння Полацкая — гэта першы пісьменнік, які напісаў аўтабіяграфію.

У Беларусі таксама было Адраджэнне. Але яно было больш складаным. У Беларусі быў Рэнесанс.

Гусоўскі за мяжой сумаваў па Беларусі, і рэзультатам гэтай сумы з'явілася паэма «Песня пра зубра».

Мікола Гусоўскі напісаў паэму «Песня пра зубра» ў Рыме. Там была бойка быкоў. Калі быкі біліся, там сядзеў Ватыкан.

Выдаць паэму ў Вечным горадзе не ўдалося, бо яе заказчыкі памерлі ў хуткім часе.

Спачатку Гусоўскі працаваў палясоўшчыкам.

Ён пакінуў свайму народу вельмі багатыя, неацанімыя нашчадкі.

●

Скарына — прадстаўнік прыгожага, чыстага, яснага.

Замест ікон Скарына прыміняў тыповыя абставіны, якія былі характэрны для эпохі Адраджэння.

Скарына ў прадмовах разглядаў і ацэньваў пазнавальна-адукацыйныя і мастацкія дасціпнасці біблейскіх твораў.

Скарына заканчвае 6 факультэтаў у Кракаўскім універсітэце.

Свае апошнія гады ён пражыў вільготна і спакойна.

●

Полацк вёў гандлю з розньімі дзяржавамі.

У пачатку 16 стагоддзя ў Вялікае княства Літоўскае пачынае прабірацца Рэфармацыя.

У Нясвіжы стаіць помнік Дзям'яну Беднаму.

Першыя беларускія вершы напісаны на літоўскай мове.

Багрым нарадзіўся каля Баранавіч. Публіцыстыка яго да нас не дайшла. Дасканалыя звесткі пра яго не дайшлі. Ён скончыў школу і як бы ўдзельнічаў у Крошынскім паўстанні. І пасля як бы апісаў.

Паўлюк Багрым рабіў сабе гавэнды.

Багрым злуецца на кажана, чаму ён не сядзе на яго.

Франц Савіч бяжыць з Каўказа і ламае сабе нагу.

Ф. Савіч пытаецца, дзе ж яго шчасце падзелася і не дае адказу — невядома дзе.

●

Сапраўднае прозвішча Дуніна-Марцінкевіча было Навум Прыгаворка.

Упершыню сутыкнуўшыся з трупам, Дунін-Марцінкевіч зразумеў, што не будзе медыкам.

Пасля ў Люцінцы адкрываецца нелегальная арганізацыя, у якой Дунін-Марцінкевіч працуе разам са сваёй жонкай.

Дунін-Марцінкевіч карыстаўся псеўданімам «Вінцэнт Марцінкевіч».

Пазнаёміўшыся з французскімі апэрэтамі, Дунін-Марцінкевіч піша свае лібрэты.

Дунін-Марцінкевіч уяўляе сабой складаную, я б сказаў, з'яву, у якой перапляліся асаблівасці сілабічнага, народнага танічнага і сілабатанічнага вершаскладання.

Светапогляд Дуніна-Марцінкевіча — гэта светапогляд шляхецкага пралетарыя.

Дунін-Марцінкевіч з нісхадзіцельна адносіцца да прыгону.

Дунін-Марцінкевіч звязаў жыццё народа ў адну асобную адзінку.

Ён злучыў Гапона з Кацярынай і паказаў іх шчаслівы канец.

Гапон — бедны юнак, ён радзіўся між лесу.

Дунін-Марцінкевіч не быў тыповым рамантыкам, але яму было схільна нешта нерэальнае.

Міфалогія твора ў тым, што ў час, калі вячэралі і ўспаміналі стаўроўскія дзяды, у хату ўбеглі два сабакі.

У вершаванай аповесці «Халімон на каранацыі» ёсць некаторыя асаблівасці стылю.

У творы, фантастычным у сваёй аснове, ёсць некаторыя элементы рэчаіснасці. Напрыклад, калі Халімон і Забалотны заходзяць у «карчомку» паснедаць, а там усе гавораць па-французску і сярод гэтай раскошы ўсе дзівяцца на сялян, што яны тут робяць. (Пра «Халімона на каранацыі»).

Просты мужык апынуўся сярод вялікай натоўпы, дзе ўбачыў жанчыну з дзіцем, на якую навалілася натоўпа.

Творчы метад Дуніна-Марцінкевіча заключаецца ў тым, што творы заканчваюцца добра.

«Польская шляхта» Дуніна-Марцінкевіча.

«Пінская шляхта» вельмі актуальная. Яна і сёння вучыць нас, як трэба жыць і працаваць.

Вызываюць смех і заляцанні старога Сабковіча да маладой Адэлі. Гэта таксама шлях выкрыцця рэчаіснасці.



Малюнак А. ГУРСКАГА.




**З 19 ПА 25 ЛІСТАПАДА**

**19 лістапада. 21.40**

**У ТЭАТРАХ КРАІНЫ**

**У. Губараў. «Дача Сталіна».**

**Спектакль Данецкага абласнога музычна-драматычнага тэатра імя Арцёма.**

**Рэжысёр-пастаноўшчык А. Грынчанка. Уступнае слова выканаўцы галоўнай ролі, заслужанага артыста УССР Г. Гаршкова.**

**20 лістапада. 19.00**

**Адкрыццё фестывалю мастацтваў «Беларуская музычная восень».**

**Трансляцыя з Белдзяржфілармоніі.**

**20 лістапада. 21.40**

**ЛІРА**

**Мастацка-публіцыстычная праграма.**

**«Там, дзе жывуць беларусы». Жыццё і творчасць мастака з Беласточчыны Лёніка Тарасевіча.**

**20 лістапада. 22.30**

**ЗАПРАШАЕМ НА ВЯЧОРКІ**

**Фальклорныя калектывы Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці.**

**23 лістапада. 19.50**

**ГАВОРЫМ ПА-БЕЛАРУСКУ**

**Урокі А. М. Белакоза.**

**23 лістапада. 20.10**

**«ЖЫЦЦЁ З ПЕСНЯЙ»**

**Тэленарыс пра народных музыкантаў — сям'ю Бакацюкоў з Кобрына.**

**25 лістапада. 13.55**

**«Я АДЧУВАЮ ПАД СЭРЦАМ НОШУ»**

**Творчасць паэта У. Жылкі.**

**У перадачы бяруць удзел пісьменнікі У. Калеснік, А. Разанаў, дачка паэта Н. У. Жылка. Вядучая — Л. Хейдарава.**

**25 лістапада. 16.30**

**ТВОРЧЫЯ ПАРТРЭТЫ**

**Народная артыстка БССР Наталля Гайда.**


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и совета Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**Літаратура і Мастацтва**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ, Віталь ТАРАС — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел інфармацыі: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕУСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА, Уладзімір ЯГОЎДЗІК — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жанна ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы: Вячаслаў ЛАПЦІК — 33-24-62; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт: Уладзімір КРУК — 33-24-62; бухгалтэрыя — 23-73-37.



Пры передруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.



Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.



Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГІЛЕП, Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.